



# Рэгіянальная газета. Rh.by




тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

7 красавіка 2017 года №14 (1145)


## Маладзечанскія электрасеткі: выхаднога ў нядзелю ў нас не было

старонка 3

## Немцы, як персікі, а беларусы – нібы кавуны. Якой уяўляла Беларусь дзяўчына з Германіі

старонка 5

## Як жывуць маладзечанцы ў самым прыгожым доме горада

старонка 20

# Інвалід з Ільі: "Цяпер я ведаю, як становяцца бамжамі"

## Райвыканкам: ад дапамогі ён адмаўляецца ў грубай форме

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

старонка 2



## "Рэгіянальная газета" пераехала

наш новы адрас

**Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518**
(ГЦ "Т р о й к а", 5-ы паверх)

Нашы новыя тэлефоны
Аддзел інфармацыі: (80176) **53-78-06**
Аддзел рэкламы/факс: **53-78-04**

Нумары мабільных тэлефонаў:
(8029) **676-84-20**, (8029) **573-28-47**

ТЭМА НУМАРА

# Ільянскі інвалід без абедзвюх ног, які жыве ў палатцы: цяпер я ведаю, як становяцца бамжамі

ВІЛЕЙКА

**– Дзякуй сталічным дактарам за тое, што з бальніцы выпісалі па цяпле, – пачынае свой аповед інвалід жыхар Ільі Алег Бірукоў.**

Мужчыну некалькі дзён таму выпісалі з бальніцы, дзе яму ампутавалі другую нагу. Прыехаў у Ілью, а жыць няма дзе.

У лістападзе Алега паклалі ў мінскую бальніцу. У снежні, калі мужчына яшчэ ляжаў там, яго дом згарэў.

### Падарылі мэблю і халадзільнік, але паставіць няма куды

– Страшную навіну пра пажар я ўспрыняў больш-менш спакойна, – распавядае Алег. – Мне патэлефанавала маці майго сына-дзевяцікласніка і кажа: "Здарылася непапраўнае".

Мужчына адразу перапалохаўся, што нешта жахлівае здарылася з сынам. Калі ж даведаўся пра пажар у хаце, гэтая навіна адразу не вельмі спалохала.

Аднак ішоў час. Набліжалася выпіска, а мужчына разумеў, што яму няма куды вяртацца. Кажа, адчувальнай была маральная падтрымка з боку абласнога таварыства інвалідаў. Старшыня арганізацыі **Ганна Гарчакова** асабіста наведала Алега ў бальніцы.

**На бяду інваліда адгукнуліся розныя прадпрыемствы рэспублікі. Завод сантэхнікі падарыў ракавіну, унітаз, змыўны бачок. Прадпрыемства з Брэста – дыван, сталічны завод – тэлевізар, фабрыка з Добруша – посуд. З Рэчыцы прапануюць мэблю.**

Дапамагло грашыма ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама. Па хадайніцтве ўпраўлення выдзеліў грошы Камітэт па сацыяльнай абароне ў Мінску.

Але ж асноўная праблема – жыллё – застаецца нявырашанай. У доме жыць немагчыма: і дах, і сцены прагарэлі наскрозь.

Па словах інваліда, ён звяртаўся і ў Савет Міністраў, і ў Мінскі Савет дэпутатаў, каб дапамаглі ў бядзе. Аднак ніякіх вынікаў гэта не прынесла, акрамя адпісак. У Савеце дэпутатаў адказалі:

– А не змаглі б вы знайсці грошы, каб наймаць сабе кватэру.

З пенсіяй 300 рублёў гэта нерэальна, перакананы Алег.

Кажа, быў на прыёме ў Вілейскім райвыканкаме, звяртаўся ў мясцовы сельсавет. Адказваюць, што няма свабодных будынкаў. Па словах жа Алега, такія будынкі ёсць. Напрыклад, былая сельская бібліятэка ў Ільі, што стаіць зачыненая. Інвалід гатовы набыць яе, аднак яму не дазваляюць.

Прапанова пабыць у сацыяльных установах Вілейшчыны яго таксама не задавальняе. Кажа, што з пенсіі не пацягне аплату за такую ўстанову.

– Я здзіўляўся раней: як гэта людзі становяцца бамжамі? А цяпер сам, лічы, стаў ім, – кажа інвалід.

### Юрысты з офіса абароны правоў інвалідаў: трэба стукацца ва ўсе дзверы

У сталічным офісе па абароне правоў людзей з абмежаванымі магчымасцямі аб праблеме Алега ведаюць.

– Мужчына звяртаўся да нас, – распавялі юрысты. – Аднак спецыяліст, які вёў гэтую справу, звольніўся.

Нам, не да канца ведаючы справу, цяжка даць нейкі каментар, адказалі ў офісе. Аднак тое, што без жытла чалавек, а тым больш інвалід – гэта праблема, якую трэба вырашаць.

У любым выпадку, мужчына павінны стукацца ва ўсе дзверы, упэўненыя ў офісе. Жыццё ў палатцы – гэта не выйсце.

Юрысты гатовыя аказаць прававую падтрымку ў справе Алега Бірукова.

### Старшыня Ільянскага сельсавета: так, інвалід. Але і да яго ёсць шмат пытанняў

Старшыня Ільянскага сельскага Савета **Мікалай Русак** ведае аб праблеме жыхара Ільі Алега Бірукова.

– Ён звяртаўся, каб яму знайшлі жыллё. Аднак вольнага жылля ў сельсавеце няма, а тое, што ёсць, не добраўпарадкаванае, – кажа старшыня. – Мы прапаноўвалі яму пажыць у сацыяльных установах раёна, напрыклад, у Іжы. Вядома, за яго кошт. Бо трэба ж і карміць, і даглядаць. А гэта каштуе грошай. З пенсіі адлічваюць прыкладна 80%.

Ад такой прапановы Алег Бірукоў адмовіўся.

Так, ён інвалід, без ног, але і да яго ёсць шмат пытанняў, кажа Мікалай Русак. Па словах старшыні, Алег Бірукоў яшчэ раней прадаў добры дом з прысядзібным участкам, а сам пераехаў у бацькаў дом.

– Ён самастойна пагоршыў свае жыллёвыя ўмовы, – расказаў Мікалай Русак.

Па словах старшыні, інвалід звяртаўся ў Вілейскі райвыканкам. Лепш патэлефануйце туды, параіў Мікалай Русак...


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Інвалід Алег Бірукоў ля хаты ў Ільі.

### Ад прапаноў ён адмаўляецца ў грубай форме: у райвыканкаме каментуюць сітуацыю з інвалідам

У райвыканкаме намесніца старшыні **Святлана Дзяруга**, начальніца аддзела ЖКГ **Вольга Малафей** і начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне **Віктар Сярко** 4 красавіка пракаментавалі сітуацыю жыхара Ільі інваліда Алега Бірукова.

– Мы не кінулі Алега Бірукова пад тэнтам, – пачала размову Святлана Дзяруга. – Мы ведаем пра яго праблему, яшчэ некалькі год таму дапамагалі ягонаму бацьку-нябожчыку – ветэрану вайны.

Па словах Святланы Міхайлаўны, дапамогу Алегу Бірукову прапаноўвалі. За тыя паўтара месяца, што ён ляжаў у бальніцы, маглі б адрамантаваць яго дом. Інвалід меў бы куды прыехаць.

Вядома, рамонт не бясплатны. Патрэбныя матэрыялы і рабочыя. Аднак лес для будаўніцтва пагарэлец можа выпісаць ільготна. А аддзел ЖКГ прапанаваў бы недарагую будаўнічую брыгаду.

Сродкаў, якія Алег Бірукоў атрымаў у якасці страхоўкі за дом, на гэта б хапіла, упэўненая Вольга Малафей. Аднак такі варыянт інваліда не задаволіў.

Прапаноўвалі часова пажыць у сацыяльнай установе ў Куранцы, Іжы або Ільі. З яго пенсіі адлічвалі б 80-90%. Таму, па словах Віктара Сярко, пенсіі на такую ўстанову інваліду хапіла б.

Тым больш у Ільі, кажа Святлана Дзяруга, ён мог бы жыць адзін у палаце і назіраць за тым, як аднаўляецца дом, калі б сам гэтага захацеў.

Па словах Вольгі Малафей, будынак, дзе месцілася сельская бібліятэка ў Ільі, інваліду аддаць не могуць. Гэта незаконна, бо бібліятэка – не памяшканне для жыхарства. У будынку няма водаправода, каналізацыі, ацяплення, прысядзібнага ўчастка.

Райвыканкам гатовы арганізаваць суботнік валанцёраў у доме Алега Бірукова, падключыць ільянскі каледж і сельсавет. Аднак без яго згоды гэтага не зробіш. А згоды зноў жа няма.

– Мы імкнёмся знайсці агульную мову, – кажа Віктар Сярко. – Днямі Алег Бірукоў павінны прыехаць ва ўпраўленне па сацыяльнай абароне, каб аформіць дапамогу па доглядзе.

Начальнік упраўлення папярэдзіў супрацоўнікаў, каб інваліда прапусцілі без чаргі.

Па словах Віктара Сярко, для службы сацыяльнай абароны не важна, які чалавек і чаму ён інвалід.

**Прынцып адзін: раз у чалавека бяда, яму трэба дапамагчы. Аднак, як дапамагчы, калі чалавек сам не хоча гэтага.**

І па словах Святланы Дзяругі, адмаўляецца ад дапамогі ў грубай форме.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

"Усё жыццё дапамагалі пагарэльцам, хто чым мог. У наш час для інваліда раздзьмулі праблему. Ганьба!" ***Галіна Спроге.***

"Людзі, не трэба ламаць тут коп'і. На самой справе, там не ўсё так адназначна. Лепш запытайце у каго з мясцовых, хто ведае тых людзей і іх гісторыю". ***Станіслаў Брыль.***

"Станіслаў – малайчына! Лепш за мясцовых ніхто не раскажа. А мая асабістая думка хай застанецца пры мне". ***Андрэй Дударчык.***

"Маці яго сына?.. Гэта жонка былая ці?... Як зразумець?" ***Святлана Пухлякова.***

"А дзе сям'я, дзеці?" ***Яніна Ціпчанка.***

"Як мог чалавек, які ляжаў у бальніцы амаль за 100 кіламетраў, быць вінаватым у пажары?" ***Марыя Акаловіч.***

"У іншых вёсках ёсць пустыя хаты. Купі і жыві!" ***Галіна Спроге.***

"А грошы Вы дасце?" ***Марына Ішчанка.***

"Я дам грошы!" ***Галіна Спроге.***



Фота забяспечана Мікалаем ВЕТРАВЫМ.

Фота з месца здарэння.

# Маладзечанскія электрасеткі: **выхаднога ў нядзелю ў нас не было**

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

**2 красавіка адбылася аварыя на падстанцыі ў Вілейцы. Без электрычнасці засталася практычна ўся Вілейшчына, частка Мядзельскага і Маладзечанскага раёнаў.**

Пра здарэнне мы пагутарылі з начальнікам вытворча-тэхнічнай службы **Мікалаем Ветравым**.

Па словах спецыяліста, сітуацыя была неардынарная. Падстанцыя ў Вілейцы сілкуецца ад станцый з Маладзечна і рэзервова з Мінска.

У сувязі з будаўніцтвам БелАЭС у Астраўцы на станцыі Мінск-Паўночны" была рэканструкцыя. Таму Вілейка сілкавалася толькі з Маладзечна.

У 15:15 на станцыі ў Вілейцы адбылася аварыя. Пачала знікаць электрычнасць у населеных пунктах.

– Па магчымасці спрацавала аўтаматыка, – распавядае начальнік участка. – Асноўны горад, які пацярпеў – Вілейка. Электрычнасць знікла ў раёне Радашкавічаў і часткова ў Мядзельскім раёне.

Для такіх сітуацый у супрацоўнікаў электрасетак ёсць спецыяльны алгарытм – план дзеянняў. Пра аварыю паведамілі дырэктару і галоўнаму інжынеру, арганізавалі рамонтныя брыгады і спецыяльных абходчыкаў па лініях.

– Самае галоўнае, устанавіць, што здарылася, а ліквідаваць пашкоджанне – лягчэй, – упэўнены Мікалай Ветраў.

У супрацоўнікаў электрасетак выхаднога ў нядзелю, лічы, не было. Прыйшлося ахвяраваць асабістымі планамі і ехаць на працу. Працавалі 82 чалавекі, 35 адзінак тэхнікі, 21 дызель-генератар.

Дызель-генератар – незалежная крыніца энергіі. Да іх, у першую чаргу, падключылі раённую бальніцу ў Вілейцы, "Нарачанскія зоры", "Аграсэрвіс", "Сцешыцы" і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, вілейскі хлебазавод, малаказавод.

Па словах Мікалая Ветрава, ніякіх нараканняў на дзеянні супрацоўнікаў электрасетак ў прадпрыемстваў не было.

Акрамя таго, што аварыя здарылася на самой падстанцыі, у двух месцах каля вёскі Забалацце на Маладзечаншчыне абарваліся правады на лініі Маладзечна-Вілейка.

Па словах Мікалая Ветрава, адбылася ланцуговая рэакцыя: аварыя на падстанцыі пацягнула за сабой разрыў провада ў слабых месцах.

Непрацяглы час важныя аб'екты ўсё ж былі без электрычнасці, кажа Мікалай Ветраў. Трэба ж было склікаць спецыялістаў, даехаць да Вілейкі, давезці генератары ў тыя месцы, дзе іх не было. Аднак у прамежку ад адной да трох гадзін асноўныя аб'екты ўжо працавалі дзякуючы генератарам.

Усяго ж у выніку аварыі без электрычнасці засталіся 546 населеных пунктаў, 92 кацельні, 136 фермаў.

У 22:14 электразабеспячэнне цалкам аднавілі.

Провад на лініі Маладзечна-Вілейка абарваўся з-за ўздзеяння току кароткага замыкання.

А прычыну аварыі на падстанцыі ўстановіць спецыяльная камісія. На гэта далі дзесяць дзён. Ад 3 красавіка камісія пачала працаваць.

Аксана ЯРАШОНАК

## Як віляйчане правялі паўдня без святла

**З-за аварыі ў Вілейцы працяглы час не было электрычнасці.**

Як гэта паўплывала на жыццё жыхароў ?

**Аксана Максімовіч** працуе педагогам-арганізатарам у вілейскай гімназіі №1 "Логас".

– У час учарашняга адключэння электрычнасці ніякіх асаблівых нязручнасцяў наша сям'я не адчула, – расказала жанчына. – Павячэралі пры свечках. Гэта так рамантычна! А яшчэ спаць ляглі рана. Гэта таксама добра. Халадзільнік размарозіцца не паспеў.

Аксана ЯРАШОНАК.

### Дачка хвалявалася, што праспіць у садок

Віляйчанка **Таццяна Радзевіч** у нейкім сэнсе радуецца таму, што ў горадзе на доўгі час знікла электрычнасць і вада – людзі значна ажывіліся, сталі кантактаваць адзін з адным, а не анлайн. Бабулькі выйшлі на лавачкі, моладзь прагульвалася па вуліцах. Горад запоўніўся смехам і размовамі. Толькі адзін магазін у горадзе жанчына знайшла адкрытым, усе пакупнікі ў ім жартавалі, смяяліся.

– Вельмі хвалявалася мая пяцігадовая дачка, – расказвае жанчына. – Ад прахожых яна пачула, што, магчыма, святла не будзе да раніцы. А ў мяне якраз разраджаўся тэлефон, на ім наводзілі будзільнік. Дачка баялася, што праспіць у садок, не сустрэнецца з сяброўкамі.

Да змяркання сям'я была на вуліцы. Увечары запалілі свечкі і ліхтарыкі. Расказвалі дачцэ пра прадзедаў, пра тое, што калісьці людзі жылі пры свечках.

– Добра, што з электрычнасцю і вадой усё наладзілася, – падсумавала жанчына. – Крыўдна ад таго, што большая частка людзей залежныя ад інтэрнэту. У звыклым жыцці яна незаўважная. Адсутнасць электрычнасці прымушае задумацца, што мы часцей размаўляем у інтэрнэце, а не гледзячы ў вочы адзін аднаму.

Галіна СУДНІКОВІЧ.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**12-20** літраў

столькі за хвіліну выцякае вады з цалкам адкрытага крана

Паводле памяткі "Як зэканоміць 1000 кВт. г у год? Простыя парады для беражлівай сям'і"

Інфаграфіка Ігара МАРОЗА.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.03 | 6.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8767 | **1,8808** |
| Еўра | 2,0242 | **2,0083** |
| Злоты, 10 | 4,7806 | **4,7273** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2928 | **3,3628** |
| Грыўня, 100 | 6,9469 | **6,9249** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" 29.03 і 5.04** | | |
| Еўра | 2.0000/2.0370 | **1.9900/2.0150** |
| Долар ЗША | 1.8600/1.8770 | **1.8700/1.8930** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 29.03 | 5.04 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,89 | **15,89** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,35** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,75** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,60 | **0,75** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 0,35 | **2,35** |
| Морква, 1 кг | 0,50 | **0,59** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | **2,40** |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | **3,75** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,70 | **3,00** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,80 | **3,49** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 4,50 | **6,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,50 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 6,95 | **6,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,59** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,35** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,50 | **3,35** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## У гаспадарках Вілейшчыны і Мядзельшчыны няправільна захоўваюць адходы

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

– Цяпер правяраем водаахоўныя зоны, глядзім, дзе пацякло, дзе палезла, – расказаў аб працы Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы прыроды начальнік **Валеры Кляноўскі**.

Па яго словах, ужо выдалі тры прадпісанні для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Мядзельскім і Вілейскім раёнах.

– Будзем глядзець, як яны выправяць памылкі, – кажа Валеры Альбертавіч. – Караем мы ўжо ў зусім дрэнных выпадках, больш працуем на прафілактыку.

У гаспадарках рэгіёна ёсць праблемы з захоўваннем гною. Яго павінны складаць у спецыяльныя зацэментаваныя сховішчы. Часта такія сховішчы перапоўненыя, гной пачынае выцякаць.

Некаторыя фермы знаходзяцца недалёка ад вадаёмаў. І гной там могуць складаць у вялікія бурты проста на зямлю.

– Тут недалёка да бяды, – упэўнены начальнік інспекцыі. – Калі прарве сховішча гною на Вілейшчыне, усё змесціва апынецца ў Вілейскім вадасховішчы.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Аднаго забіў, двух параніў: у Смалявіцкім раёне затрымалі маладзечанца

МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю 27 сакавіка паведамілі, што ў пад'ездзе шматкватэрнага дома ў аграгарадку Слабада Смалявіцкага раёна з нажом у руках бегае невядомы мужчына. На месца здарэння выехала следча-аператыўная група.

Непрацуючы раней судзімы жыхар Маладзечна пасля п'янкі падчас сваркі стукнуў нажом у сэрца мясцовага жыхара. Мужчына ад раны памёр на месцы. Далей нападаючы параніў нажом яшчэ двух сабутэльнікаў: аднаго мясцовага жыхара і жыхара аграгарадка Кленнік Смалявіцкага раёна.

У мэтах аднаўлення поўнай карціны здарэння прызначылі біялагічную, генетычную і судова-медыцынскую экспертызы.

Паводле БелТА.



## Дапамог стратэгічны запас: у Астраўцы з-за прарыву труб не было вады ў аўтапарку і на хлебазаводзе

АСТРАВЕЦ

Ад шасці раніцы і да чатырох гадзін вечара хлебазавод і аўтапарк у Астраўцы былі без халоднай вады.

Тэхналагічны працэс на хлебазаводзе не парушылі, бо мелі рэзервовы запас вады на суткі.

У 15:50 аварыю ліквідавалі, водазабеспячэнне аднавілі.

Прычына парыву – каразійны знос сценак трубаправода.

Паводле сайта МНС.

## Масажыст у Гродне зрабіў масаж, ад якога састарэлая пацыентка памерла

ГРОДНА

90-гадовая пенсіянерка з-за ўзросту мела патрэбу ў масажных працэдурах і стала шукаць прыдатнага для гэтага спецыяліста.

І знайшла мужчыну, які запэўніў, што лёгка справіцца з гэтай задачай.

Акрамя масажу, ён правёў працэдуру лячэбнай гімнастыкі.

Пасля гэтых маніпуляцый састарэлая жанчына адчула сябе значна горш, трапіла ў шпіталь і неўзабаве памерла.

Па заключэнні судмедэксперта, ёй былі прычыненыя цяжкія цялесныя пашкоджанні (а менавіта некалькі закрытых пераломаў), якія і прывялі да трагічнага зыходу.

У дачыненні да мужчыны, мясцовага жыхара 1980 года нараджэння, які аказаў медыцынскую паслугу, не маючы на тое адпаведных правоў, распачатая крымінальная справа па ч.2 ст.335 КК РБ, санкцыя якой прадугледжвае пакаранне аж да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Ігар БЕЛАЗЁРАЎ, афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама.

# На лаве падсудных – былы начальнік Вілейскай ДАІ

ВІЛЕЙКА

**Як вынікае з матэрыялаў крымінальнай справы, абвінавачаны атрымліваў хабар у выглядзе прадуктаў харчавання, а таксама маторнай алівы.**



Абвінавачванне Віталю Н. зачытвалі амаль гадзіну.

Суд над былым начальнікам аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Віталем Н.** працягнуўся 5 красавіка ў абласным судзе ў Мінску. Яго абвінавачваюць па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса, паведамілі ў судзе.

Разгляд справы доўжыцца не першы месяц. Мінскі абласны суд пачаў разглядаць ягоную справу ў пачатку снежня мінулага года.

Сярод прад'яўленых абвінавачанняў – бяздзейнасць службовай асобы, перавышэнне службовых паўнамоцтваў, службовы падлог, а таксама атрыманне хабару. Абвінавачаны сваю віну не прызнаў ні па адным з пунктаў.

Фігуранту прад'яўленае абвінавачанне па больш чым дзесяці эпізодах. Пракурор зачытваў яго амаль гадзіну.

Па словах пракурора, Н. на працягу 2014-2015 гадоў неаднаразова ад даваў сваім падначаленым вусныя ўказанні па тэлефоне аб непрыцягненні сваіх сяброў да адказнасці за парушэнне Правілаў дарожнага руху.

У матэрыялах справы фігуруюць сумы хабару – 500 тысяч недамінаваных рублёў у 2014 годзе і 300 тысяч недамінаваных рублёў у 2015 годзе.

Як вынікае з матэрыялаў крымінальнай справы, абвінавачаны атрымліваў хабар у выглядзе прадуктаў харчавання і маторнага алею. Таксама ў судзе агучылі тое, што справу Н. ужо разглядаў суд Маладзечанскага раёна і затым перадаў у суд Мінскай вобласці.

Паводле sputnik.by

## Валожынскае ПМС зацягнула рэканструкцыю ў Пяршаях на сем месяцаў

МАЛАДЗЕЧНА

У ходзе праверкі Валожынскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм устанавілі факты нямэтавага выкарыстання таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў, набытых за бюджэтныя сродкі. Таксама шматлікія парушэнні парадку вядзення бухгалтарскага ўліку, заканадаўства ў сферы будаўніцтва і іншыя.

У 2015 і 2016 гадах прадпрыемства не выканала большасць паказчыкаў, прадугледжаных бізнес-планам. Да прыкладу, за 2016 год ад рэалізацыі атрымалі страту ў суме на 152 тысячы рублёў пры запланаваным прыбытку 1 800 рублёў.

Ад фінансавай дзейнасці атрымалі 177 тысяч рублёў чыстай страты, рэнтабельнасць продажу склала мінус 15,6% пры плане 0,1%. Прадпрыемства адчувае недахоп уласных абаротных сродкаў, у сувязі з чым не выконвалі абавязацельствы па выплаце лізінгавых плацяжоў.

Мелі запазычанасць перад бюджэтам ад здачы ў арэнду ўласнай нерухомай маёмасці – каля 2 500 рублёў. Прадпрыемства дапускала "зацягванне" ходу рэканструкцыі меліярацыйных аб'ектаў, зрывала тэрміны выканання работ, якія фінансуюцца з бюджэту.

Ад лістапада 2014 года вядзецца рэканструкцыя меліярацыйных сістэм "Укропаўшчына" ў кааператыве "Пяршаі-2003". Па прычыне неаднаразовага парушэння графікаў вытворчасці работ, а ў некаторых выпадках і неўрытмічнага фінансавання, нарматыўны тэрмін будаўніцтва перавышаны на сем месяцаў.

Так і не завершанае будаўніцтва аб'екта, яго гатоўнасць каля 86%.

Пры гэтым матэрыялы набылі за кошт бюджэтных сродкаў і выкарысталі на іншыя аб екты.

Па выніках праверкі прадпрыемства і службовыя асобы прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.

## Як лавіць рыбу ў час нерасту

Нераст – адно з найбольш важных звёнаў у жыццёвым цыкле рыб, якое забяспечвае бесперапыннае абнаўленне віду. У перыяд вясновага нерасту ў Беларусі прадугледжаныя дадатковыя ахоўныя мерапрыемствы, якія дазваляюць рыбе спакойна аднерасціцца і даць шматлікае і жыццястойкае патомства.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства штогод устанаўліваюць забарону на лоўлю усіх відаў рыбы:

ва ўгоддзях Брэсцкай і Гомельскай абласцей – ад 20 сакавіка да 18 мая;

у Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцях – ад 1 красавіка да 30 мая;

Віцебскай вобласці – ад 10 красавіка да 8 чэрвеня.

У перыяд вясновай забароны дазваляецца аматарскае рыбалоўства адной вудай з адным кручком. Або адным спінінгам са штучнай прынадай з адным адзінарным або падвойным, або трайным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, са штучны збудаваннаў.

Выкарыстанне ў гэты час любых іншых сродкаў лоўлі з'яўляецца парушэннем Правілаў і цягне штраф ад 20 да 50 базавых велічынь (460 – 1 150 рублёў).

У перыяд нерасту забаронена выкарыстоўваць маламерныя судны. Гэта парушэнне цягне штраф ў памеры да 20 базавых велічынь (да 460 рублёў).

Пры незаконнай здабычы рыбы ў перыяд вясновай забароны шкоду кампенсуюць у трайным памеры на падставе таксы, усталяванай па кожным відзе рыбы.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў Мінскай вобласці да 15 красавіка забараняюць лавіць шчупака. Усім рыбаловам-аматарам, калі яны ў перыяд нерасту дазволеным спосабам і дазволенымі ў дадзены перыяд прыладамі лоўлі выпадкова злавілі шчупака, неабходна, па магчымасці не прычыняючы шкоды, выпусціць рыбу ў натуральнае асяроддзе. У адваротным выпадку такая рыбалка прызнаецца незаконнай, а такія рыбаловы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Калі сума нанесенай шкоды складзе больш за 100 базавых велічынь, надыходзіць крымінальная адказнасць.

Пётр ЦЫВІЛЬКА, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# Чаму немцы, як персікі, а беларусы – нібы кавуны

## Якой уяўляла Беларусь дзяўчына з Германіі

**Клас! Немцы!!! Такія захопленыя воклічы неаднаразова чула 19-гадовая немка Мірыям Кузьменка, калі трапіла ў Беларусь.**

Пасля заканчэння школы ў нямецкіх дзяцей ёсць два шляхі: альбо паступаць ва ўніверсітэт, альбо падарожнічаць. Мірыям вельмі хацелася трапіць у іншую краіну, аднак на гэта не было грошай. Вырашыла падаць заяўку на адну з валанцёрскіх праграм.

Да кандыдатаў быў шэраг патрабаванняў: добры атэстат, удзел у разнастайных мерапрыемствах, выкананне творчага задання. Мірыям вучылася добра, у школе ўдзельнічала ў розных мерапрыемствах, у інтэрнацыянальных конкурсах, з гэтым праблемаў не ўзнікла. Вывучала французскую, нямецкую мовы, лаціну, іўрыт. Хвалявалася толькі за творчае заданне. Але і з гэтым справілася. Яе кандыдатуру выбралі для працы ў Беларусі.

Меркавала, што будзе працаваць у Мінску, бо іншых гарадоў, акрамя Гомеля і Віцебска, не ведала і нават не чула.

– Калі сказалі, што паеду ў Маладзечна, разгубілася, што яшчэ за Маладзечна? – расказвае Мірыям. – Паглядзела ў інтэрнэце, вельмі спадабаўся горад, акуратны, дагледжаны, а самае галоўнае – невялічкі, як мой родны Хільдэн.

Дзяўчына прызнаецца, што баіцца перамен, аднак не ў гэтым выпадку.

– Ведала, што ў краіне пераважна размаўляюць па-руску, – адзначае дзяўчына. – Мая руская мова не самая лепшая, аднак не хвалявалася, што будуць праблемы ў камунікацыі. Часам нават хавала, што разумею па-руску. Аднойчы ехалі з сябрам на маршрутцы, падчас дарогі размаўлялі па-нямецку, выйшлі ў Маладзечне, падышоў незнаёмец і прапанаваў правесці экскурсію па горадзе. Спачатку думаў, што мы прыехалі не туды, якія немцы ў Маладзечне? Аднак усё патлумачыла.




Фота Наталлі ТУР.

**Менавіта стажыроўка ў Беларусі дапамагла Мірыям вызначыцца з прафесіяй. Плануе паступаць ва ўніверсітэт, каб стаць настаўніцай пачатковых класаў.**

### Перажывала, хаця б матрац далі

Ва ўяўленні дзяўчыны Беларусь падавалася не сучаснай краінай.

– Меркавала, што ўмовы пражывання будуць не самымі лепшымі, – дзеліцца ўяўленнямі немка. – Спадзявалася, што дадуць хаця б матрац, каб спаць. Калі ж пашчасціць, магчыма, у пакоі будзе ложак, а на падлозе дыван савецкага ўзору. Меркавала, што жыць буду ў бабулькі альбо з адным з валанцёраў.

Вельмі здзівілася, калі ўбачыла, што Беларусь ідзе ў нагу з часам, а ў большасці дамоў няма савецкіх дываноў.

### Беларусы, як кавуны; немцы, як персікі

Кінулася замежнай госці тое, што беларускі вельмі яркія ў адзенні і шчырыя ў зносінах.

– Калі параўноўваць беларусаў і немцаў, то першыя больш падобныя да кавуноў, – зазначае Мірыям. – На вуліцах яны вельмі заглыбленыя ў свае думкі, сур'ёзныя. Калі ж з імі пазнаёміцца бліжэй, аказваецца, што вельмі мяккія, добразычлівыя, гатовыя прыйсці на дапамогу. Немцы ж, нібы персікі, з выгляду вельмі добразычлівыя, аднак на самой справе жывуць толькі сваімі турботамі.

### Чаму немцы думаюць, што Беларусь – частка Расіі

Дзяўчына адзначае, што многія немцы не ведаюць, што ёсць такая краіна, як Беларусь, думаюць, што гэта частка Расіі.

– Справа ў тым, што Беларусь па-нямецку гучыць, як Вайс Русланд, што ў перакладзе значыць Белая Расія, – тлумачыць Мірыям. – Таму многія немцы думаюць, што Беларусь – гэта не асобная краіна. Цяпер тлумачу сябрам, што правільна гаварыць Беларусь, расказваю пра краіну, людзей.

### Галоўнае, каб вучні не сумавалі

Мірыям працуе настаўніцай нямецкай мовы ў дзясятай гімназіі ў Маладзечне. Сваіх вучняў просіць называць яе на ты і па імені. Самае галоўнае для маладога спецыяліста, каб на яе занятках не было сумна.

– Большая частка заняткаў праходзіць у форме гульні, – расказвае настаўніца. – Самае галоўнае, каб дзецям было цікава, тады і веды будуць лепш засвойвацца. Ладзім кулінарныя заняткі, падчас якіх дзеці вучаць назвы прадуктаў і гатуюць пэўную страву, арганізоўваем тэатральныя імправізацыі. Цікавымі былі заняткі, калі дзеці чыталі тэкст па-нямецку, я з іншым валанцёрам перакладала. Дзеці выпраўлялі нашы памылкі ў вымаўленні, мы ў сваю чаргу іх.

Аднак маладой настаўніцы не заўсёды лёгка падрыхтавацца да заняткаў, бо не мае спецыяльнай адукацыі. Падоўгу сядзіць у інтэрнэце, каб знайсці цікавае рашэнне для пэўнай тэмы альбо выкарыстоўвае досвед калег.

– Цешыць, што дзеці вельмі актыўныя на занятках, не баяцца выказвацца і рабіць памылак. Галоўнае, іх расшавяліць, – расказвае Мірыям. – Часта на занятках так захапляюся, што шмат размаўляю па-нямецку. Калі перапыняюся, пытаюся ў дзяцей, ці ўсе зразумела, аказваецца, так.

Здзіўляе Мірыям прага да вучобы школьнікаў – выконваюць заданне не з меншым імпэтам нават тады, калі настаўнік выйшаў.

Мірыям планавала папрацаваць у Беларусі год, аднак настолькі спадабалася работа, што хоча адцягнуць момант ад'езду, працягне працу да жніўня.

> **– Менавіта стажыроўка ў Беларусі дапамагла вызначыцца з прафесіяй, – падсумоўвае Мірыям. – Як толькі вярнуся ў Германію, паступлю ва ўніверсітэт, каб стаць настаўніцай пачатковых класаў.**

Мірыям плануе працаваць у Германіі. Там засталіся бацькі, сябры, па якіх сумуе.

– Прыязджала нядаўна на два тыдні, было цяжэй з'ехаць, чым тады, калі адпраўлялася ў невядомую мне Беларусь, – узгадвае Мірыям. – Бачыла, што бацькам і бабулі вельмі складана развітвацца са мной. Ад гэтага яшчэ цяжэй на душы.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

# Выбралі скульптуру маці, якая ўпрыгожыць вілейскі парк

**ВІЛЕЙКА**

Летась "Рэгіянальная газета" пісала пра тое, што ў Вілейцы пры падтрымцы фонду Еўфрасінні Полацкай аб'явілі конкурс сярод скульптараў на стварэнне адпаведнай скульптуры. Узнагароджаннем для творцы-пераможцы павінна было стаць усталяванне уласнай скульптуры ў парку.

Удзельнічалі працы пяці аўтараў.

У выніку перамог творца **Аляксандр Шомаў**. Эксперты падкрэслілі цэласнасць яго кампазіцыі, дыялог маці і дзіцяці, агляд з усіх бакоў, дынамічнасць.

Аляксандр Шомаў – адзін з аўтараў скульптуры першай настаўніцы ў Мінску на ганку педагагічнага ўніверсітэта.

> **– У вышыню скульптура будзе 2,2 метра, – расказаў Дзмітры Гарланаў. – Акрамя таго, у скверы Маці плануюць пасадзіць кусты, кветкі, усталяваць ліхтары таршэрнага тыпу, дзве камеры назірання, лаўкі, урны.**

Добраўпарадкаванне пачнуць ад красавіка. Скульптуру павінны ўстанавіць да ліпеня.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота забяспечана аддзелам архітэктуры Вілейскага райвыканкама.

**Аўтарам скульптуры, якая размесціцца ў парку, стаў Аляксандр Шомаў.**

# Бодзі-арт і бліны з ікрой: што чакала гасцей на фестывалі "Арт-вакацыі"

МАЛАДЗЕЧНА

**Візажыст робіць кліентцы суперсучасны макіяж, а побач дзяўчына ў сукенцы часоў Радзівілаў распавядае пра старажытны Нясвіж. Ці не сама Барбара скрозь часы і адлегласць трапіла ў Маладзечна?**

Моладзевы фестываль "Арт-вакацыі" здзівіў не толькі гэтым.

30 сакавіка пад дэвізам "моладзь + творчасць = гісторыя будучыні" ў маладзечанскім Палацы культуры сабралася каля 500 навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных устаноў, якія паказалі свае таленты журы і гледачам.

А таленты былі рознабаковыя. У фае дэфілявалі мадэлі ва ўласна пашытых строях, тут жа за сталом майстры з Мар'інай Горкі рабілі скарбонкі з гліны ў выглядзе вядомых сённяшняй малечы смяшарыкаў.

Мінчане расказалі, як самастойна робяць араматычныя алей і збіраюць спецыяльныя зёлкі для працаздольнасці, здароўя і добрага сну.

Навучэнцы Капыльскага каледжа частавалі гарачымі карункавымі блінамі з ікрой, натуральнымі сокамі і кактэйлямі.

Наш рэгіён прадставілі маладзечанскі і вілейскі каледжы.

Навучэнцы дэманстравалі калекцыі мужчынскага і жаночага адзення, выступаючы і мадэлямі, і мадэльерамі адначасова.

Госці з Нясвіжа ўпрыгожвалі ахвотных малюнкамі бодзі-арт і прапаноўвалі паўдзельнічаць у віктарыне пра жыццё і творчасць **Якуба Коласа**, бо менавіта з Нясвіжам звязаныя маладыя гады песняра.

Надзвычай папулярнымі былі пляцоўкі па стварэнні прычосак і макіяжу. Тут час ад часу выстройвалася чарга з жадаючых стаць прыгожымі.

Выставы, майстар-класы, дэгустацыя, віктарыны, спевы, вершы і флэш-мобы, безліч інтэрактыўных пляцовак... Усё гэта адбывалася проста ў фае Палаца. Але асноўнае дзеянне чакала ўсіх у вялікай зале.

Тут зладзілі святочны гала-канцэрт фіналістаў абласнога фестывалю "Арт-вакацыі".

Артысты з навучальных устаноў вобласці спявалі, танцавалі, паказвалі акрабатычныя нумары і свае таленты ў пантаміме і бітбоксінгу.

У гала-канцэрце ўдзельнічаў віляйчанін **Уладзімір Высоцкі** з вакальным нумарам "Арыя містэра Ікс". Яго выступленне высока ацаніла журы.

У зале было шмат моладзі з Маладзечна. Старшакласнікі з гарадскіх школ арганізавана прыйшлі на мерапрыемства, нягледзячы на разгар вясновых канікулаў.

Дзевяцікласніцы з гімназіі-каледжа мастацтваў **Паліна** і **Насця** прыйшлі на канцэрт разам са сваім класам. Кажуць, хацелі б і канцэрт паглядзець, а можа, і з будучай прафесіяй вызначыцца.

**У маі ў Маладзечне зноў збярэцца моладзь, каб паказаць свае таленты ўжо на рэспубліканскім фестывалі мастацкай творчасці навучэнцаў і студэнтаў "Арт-вакацыі- 2017". На гэты раз на сцэну выйдуць пераможцы ўсіх абласцей Беларусі.**

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Дэманстрацыя калекцыі адзення.



Адно з выступленняў "Ночы для жанчын-2". Танец "паліцэйскага" з глядачкай з залы.
Фота alpha-concert.com.

# Мужчынскі стрыптыз па матывах Шэкспіра

## Вельмі, вельмі, вельмі вольнае прачытанне "Гамлета"

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі вам гавораць пра стрыптыз, то, напэўна, уяўленне адразу малюе стройных аголеных дзяўчат у бары. А вось як гэта выглядае са сцэны Палаца культуры ў выкананні мужчын рознага ўзросту і целаскладу, сабралася паглядзець цэлая вялікая зала.**

Разняволенае прадстаўленне прадюсарскага цэнтра "Альфа-канцэрт" "Ноч для жанчын-2" сабрала гледачоў вечарам 3 красавіка. Але яно прызначанае найперш для глядачак, і хадзіць на яго трэба ў кампаніі сябровак ці блізкіх сваячак. Такія кампаніі разыходзіліся з хіхіканнем і кепікамі. А вось мужчыны, якія суправаджалі сваіх абранніц на шоу, выходзілі крыху разгубленыя. Усё ж гэта вечар для жанчын, і тут той выпадак, калі гэта мае вырашальнае значэнне.

"Ноч для жанчын-2" заяўленая як ненаўмысная камедыя з пазнакай "18+" па п'есе Нікаласа Рэда. Пастаноўшчык – **Міхаіл Лашыцкі**. Пяцёра мужчын з рознымі перадгісторыямі апынуліся ў становішчы, калі не змаглі зарабляць на жыццё іншым шляхам, акрамя стрыптызу. Спектакль пачынаецца з таго, што яны танцуюць ў масках і плашчах Бэтмана, пад якімі надзетыя стрынгі. Але іх затрымаў паліцэйскі за тое, што танцоры не мелі дазволу на выступленні ў гарадку Н.

Мужчыны апынуліся ў камеры са злодзеем і эксгібіцыяністам, які любіць гуляць вечарамі па гарадскім парку. Так склалася, што месца зняволення мяркуе наведаць мэр – імпазантная жанчына сталага ўзросту, якая хоча балатавацца на наступны тэрмін. Каб яе задаволіць, начальнік просіць затрыманых выступіць для чыноўніцы. Пяцёра стрыптызёраў разам з сукамернікамі вырашылі рыхтаваць танцавальную інтэрпрэтацыю п'есы Шэкспіра "Гамлет".

Вось сціслая гісторыя, якая папярэднічае самай яркай частцы шоу. Да антракту глядачкі сочаць за ўзаемаадносінамі мужчын, у якіх ёсць гумар са смелымі акцэнтамі, шчымлівыя ноткі і адкрытасць – і ў пачуццях, і ў адзенні. Але калі б выступленне абмяжоўвалася толькі драматычнай часткай, гэтага было б мала.

Пасля антракту пачынаецца самае відовішчнае: тое самае выступленне, на якое прыйшла мэр. "Гамлет" прадстаўлены шэрагам танцавальных нумароў з элементамі стрыптызу. Калі вам звычайна няёмка пры такой разняволенасці, расслабцеся: тут вам будзе ў першую чаргу смешна. Уявіце: мажны мужчына сталага ўзросту, апрануты ва ўбор усходняй прыгажуні, спрабуе запаліць эратычны танец жывата.

**Бліскаўкі на сцёгнах так і пераліваюцца, так і слізгаюць па складках скуры! Па зале толькі і прабягалі хвалі то смеху, то воплескаў.**

Акцёры кожны нумар выконвалі ў новых касцюмах і ў рознай стылістыцы: каўбойскія пагоні, танец з ручнічком, бразільскі футбольны раўнд, танга з віялачкай... А калі вам мала проста шоу, паспрабуйце ва ўсім гэтым ухапіць намёкі на сюжэт "Гамлета".

Каб не расчараваца ў пастаноўцы, настройце сябе на разняволены і яркі вечар. На магчымасць таго, што менавіта вас абяръэ адзін з акцёраў, паставіць перад дэкарацыяй турэмных кратаў і станцуе ў стрыптызёрскім касцюме паліцэйскага спецыяльна для вас.

Зоя ХРУЦКАЯ.




# Куплю Прадам Зраблю

# Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Святлане РЫСІК з вёскі Мільча на Вілейшчыне**



Жадаем, каб моцнай была твая сямя. Каб усе дні напоўніліся любоўю, дабром была поўная твая душа. Атрымлівай асалоду ад жыцця спакойна, не спяшаючыся. А жыццё ўзамен падорыць толькі прыемныя падарункі і радасныя клопаты.

*Няхай не толькі ў гэта свята*
*Усмешка на вуснах гарыць,*
*У жыцці будзе грошай багата,*
*А кожны дзень шчасцем звініць!*
*Мы ў дзень нараджэння жадаем,*
*Кахання, жаночых прыгод,*
*І сэрца хай песні спявае*
*Яшчэ для цябе цэлы год!*

**Ад мамы і сястры Наталлі.**

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Еўдакіі Мікалаеўне КЛЮЧНІКАВАЙ**



*В такой прекрасный юбилей*
*Желаем много светлых дней,*
*Желаем радости, покоя,*
*Здоровья крепкого вдвойне.*
*Желаем самого простого*
*Прожить подольше на земле.*

**Родныя.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтамабіль "Жыгулі" на запчасткі. Вілейка. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*
- ВАЗ-21093, 1994 г.в., 1,5 бензін, торг; Т-40М без дакументаў. Т. МТС (8-029) 5031492, Вэлком (8-044) 5366026.*
- Масквіч і ДЭУ. Пральная машына "Мара". Т. (8-029) 2768546.
- Матаролер "Туліца" у выдатным стане. Торг. Т. МТС (8-029) 7630794.
- Мерсэдэс 123, 1982 г.в., 3,9Д, 1600 руб, торг да месца. Т. (8-029) 6028263.
- Опель-Вектра В, 1997 г.в., 2,0 ТД, белы. Т. (8-029) 5678090.*
- Рэно-Эспэйс, 1998 г.в, 2,0 газ-бензін, сіні. Т. (8-033) 6573695, (8-029) 2551334.*
- Сузукі-Свіфт, тэхагляд сакавік 2017г. Т. МТС (8-033) 3786807.
- УАЗ-3303, бартавы. Т. (8-029) 3029224.*
- ФВ-Гольф, 1986 г.в., 1,8 бензін, чырвоны, 3-дзверны. Т. (8-02905990962, (8-029) 1543864.
- ФВ-Пасат, 1998 г.,1,8 т, бензін, універсал, цёмна-зялёны. Вілейка. Т. (8-029) 8343670.
- Форд-Эскорт, 1992 г, 1,6 бензін, на запчасткі, на хаду. Т. (8-033) 3235320.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Дыск літы R15 арыгінальны, Мерсэдэс, 4 шт., 300 руб. Т. Вэлком (8-029) 6482157.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. **ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481.** Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Любую рэтра-тэхніку да 50-х гг. Т. (8-029) 6517444.

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузучык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузучыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, агул. плошча 23,6 кв.м, 3 паверх, цана дагаворная. Т. (8-0176) 544348.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 2-павярховы цагляны дому Вілейцы, зямельны участак 11 сотак. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 2 паверх. Т. (8-029) 7660483.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223..*
- 2-пакаёвая кватэра ў Любані, еўрарамонт. Т. (8-029) 8460439.*
- **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў А.Г. ЗАЛЕССЕ. ТЭРМІНОВА! НЯДОРАГА. Т. (8-029) 6125469.***
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага раёна, 63 кв. м, 1 паверх 3-павярховага дома, кухня 9 кв. м. Добраўпарадкаваная (шклопакеты, металічныя дзверы, навясная столь, раздзельны санвузел, балкон). Ёсць падвал, гараж, 2 соткі агарода, насупраць дома – возера, 100 км ад Мінска (нарачанскі напрамак), 11 км ад Вілейскага вадасховішча. Т, (8-033) 6362026.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 5 паверх, плошча 64,3/36,4/8,5. Тэрмінова! Т. (8-029)1973497, (8-029)1841007.*
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Астраўца. Добры рамонт. Т. (8-029) 6795294.*
- Будынак былой пачатковай школы разам з зямлёй 1,8 га у в. Малінавая Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5665809.*
- Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*
- Гараж у ГК №1 г. Маладзечна. Т. (8-029) 6262756.*
- Дача (цэгла), СТ "Гранат", 10 км ад Маладзечна, возера. Т. (8-029) 3947252.*
- Дача ў садоўніцкім таварыстве "Дружба-Прынта", 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8597408.*
- Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ, водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом 2-павярховы, 184 кв. м. Т. (8-029) 9628737, (8-029) 9061161.
- Дом вялікі і добры, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.
- Дом жылы ў Маладзечне 85/34 кв.м, пячное ацяпленне, халодная вада ў доме і ў двары, гаспадарчыя пабудовы, 0,06 га (Старое Места). Дача 6х6,5 кв. м, 2 узроўні, вада на ўчастку, 0,04 га, 48,2 кв.м, СТ "Крынічка-83" ("Родничок-83"), Мароські.Т. (8-025) 6696469, (8-0176) 500337.
- Дом з цокальным паверхам, участак 6 сотак, 17 км ад г. Маладзечна, ст. электрычкі Ласі, побач лес, дачны кааператыў "Зялёныя горкі", 30 000 руб. Т. (8-029) 3925149.*
- Дом у а.г. Жодзішкі Смаргонскага раёна, драўляны, сайдынг, унутры дрэвам, 2000 г., 125 кв. м, 25 сотак, 1 км ад р. Вілія, сасновы лес. Газ + кацёл на дровах, 3 гаражы, летняя кухня, лазня, гаспадарчыя пабудовы, сад, пладовыя кусты. Т. (8-029) 6997175.
- Дом у аграгарадку Крывое Сяло, газавае ацяпленне, вада, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 1191820.
- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом у в. Каловічы (газ). Т. (8-029) 1825368, (8-029) 7584436.*
- Дом у в.Валэйкавічы Смаргонскага раёна, цана дагаворная. Т. (8-029) 8659477.*
- Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (ст. Валожын), участак 0,21 га. Т. (8-044) 4586050.*
- Дом у вёсцы Яхджэнцы Мядзельскага раёна, 20 км ад к.п. Нарач. Побач лес, рэчка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы па вул. Мірнай,15. Т. (8-029) 2574576.*
- Дом у Чысці, газавае ацяпленне, выгоды, 120 тысяч руб., торг. Т. (8-029) 7069945.*
- Дом, лазня, калодзеж, участак 14 сотак, рэчка, лес побач, у в. Кардон Вілейскага р-на. Т. (8-029) 2928728.
- Дом-дача ў Залессі. Цана дагаворная. Т. (8-044) 7036005.

### МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 3-пакаёвую з маёй даплатай. Т. (8-029) 5649078.
- Дом недабудаваны, участак 15 сотак, жылую часовую пабудову на кватэру. Магчымы продаж. Т. (8-029) 5605781.*

### ЗДАМ

- 2 ралеты ў Ашмянах на тэрыторыі рынку 10 кв.м па 60 руб. і 12 кв. м па 72 рублі. Т. (8-029) 6631595.*
- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*
- Пакой у Маладзечне па вул. Віленскай. Т. (8-029) 5019550.*
- Паўтарачную кватэру ў Маладзечне па вул. В.Гасцінец з частковай мэбляй. Т. (8-029) 7076867.
- 2-пакаёвую кватэру ў 6-м мікрараёне ў Маладзечне на доўгі тэрмін. Т. (8-033) 3135652.







- У арэнду альбо прадам працуючы аўтамагазін у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры г. Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакал. Баян. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015. Кулікові ч Т.І.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

## СПАЧУВАННЕ

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае спачуванне **Марыі Браніславаўне Берасневай** у сувязі з напаткаўшым горам — смерцю брата.

Словамі складана залячыць раны на сэрцы, у гэтым дапамажа час і светлыя ўспаміны пра блізкага чалавека.



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

# У гімназіі "Логас" зладзілі краязнаўчую канферэнцыю

ВІЛЕЙКА

**– Я сёння столькі пра вобраз бусла даведалася і ў фальклоры, і ў літаратуры! За ўсё жыццё столькі не чула! – так эмацыйна дзялілася з калегамі ўражаннямі настаўніца беларускай мовы і літаратуры вілейскай гімназіі №1 "Логас" Алена Мачэль.**


У час урачыстага адкрыцця канферэнцыі.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

А вядучыя на адкрыцці штогадовай вясновай краязнаўчай канферэнцыі "Шлях да вытокаў" казалі пра тое, што канферэнцыя – гэта час адкрыццяў, талентаў і новых ведаў.

## "Шлях да вытокаў" – гэта наш брэнд

Дырэктар гімназіі **Аляксандр Воўк** назваў канферэнцыю брэндавым мерапрыемствам гімназіі, падзякаваў усім удзельнікам, а асабліва сваім землякам з Віцебшчыны.

Канферэнцыя ўжо даўно перасягнула межы Вілейскага раёна. І побач з віляйчанамі і вучнямі сельскіх школ Вілейшчыны сёлета тут удзельнічалі школьнікі з Віцебска і Маладзечна. Усяго было 15 установ адукацыі.

Усе работы паводле тэм размеркавалі па сямі навуковых секцыях. У секцыях "Тайны і загадкі гісторыі" і "Ад прадзедаў спакон вякоў" свае даследаванні прадстаўлялі юныя гісторыкі і краязнаўцы. Працавалі секцыі для філолагаў, эколагаў, географаў, культуролагаў, граматазнаўцаў.

Вучні-даследчыкі пісалі пра ўласныя радаводы, знакамітых землякоў. Шмат работ прапанавалі гаспадары – вучні гімназіі "Логас".

**Юлія Уласенка** і **Кацярына Балуш** прысвяцілі работу асобе палітыка і кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. **Паліна Ляшчынская** і **Яўгенія Рамановіч** расказалі, як традыцыйная беларуская вышыванка стала сучасным моладзевым брэндам.

У кожнай секцыі працавалі тры члены журы – спецыялісты-эксперты ў пэўнай галіне.

## Што чуваць у юных гісторыкаў

У секцыі "Загадкі і тайны гісторыі" прадстаўлялі працы пра Першую і Другую сусветныя войны, Рыжскі мірны дагавор, польскую гімназію ў Маладзечне, праваслаўную царкву на Віцебшчыне.

Старшынёй журы тут быў навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея, аўтар прац і каардынатар праектаў пра Першую сусветную вайну на Вілейшчыне **Андрэй Каркотка**.

– Я шмат на што звяртаю ўвагу, калі слухаю юных даследчыкаў, – падзяліўся Андрэй. – На прадстаўленне і раскрыццё тэмы, глыбіню і праўдзівасць звестак.

Гісторыя і краязнаўства не стаяць на месцы, лічыць Андрэй. І калі дзяўчынка ў сваім даследаванні кажа, што ўстаноўлена 300 імёнаў салдат Першай сусветнай, што пахаваныя на вілейскіх могілках, значыць даследаванне састарэла. На сённяшні дзень такіх імёнаў устанавілі ўжо 400. А ўсяго пахавана 500 салдат.

На думку старшыні журы, асабліва важным з'яўляецца ўменне выступоўцы весці гутарку з журы і іншымі ўдзельнікамі канферэнцыі.

Па словах Андрэя, часам здараецца так, што вучань даследаванне чытае прыгожа, а як пачнеш задаваць пытанні, адразу "плыве".

## Архівы, краязнаўцы, тэлебачанне: як працаваў Аляксандр Бабій

Асабліва ўразіла старшыню журы праца дзесяцікласніка Аляксандра Бабія з маладзечанскай гімназіі №3. Хлопец даследаваў дзейнасць польскай гімназіі імя Тамаша Зана ў Маладзечне ў 1920-30 гадах.

Хлопец шукаў звесткі з дапамогай мясцовых краязнаўцаў, працаваў у архівах, звяртаўся да сваякоў былых вучняў гімназіі праз газеты, тэлепраграму "Чакай мяне".

У выніку знайшліся сваякі, а з імі – дакументы і фотаздымкі, звязаныя з гісторыяй гімназіі.

На днях адгукнулася паэтка, супрацоўніца нацыянальнай бібліятэкі, ураджэнка Маладзечна **Людка Сільнова**. Аказваецца, і яе сваяк вучыўся ў маладзечанскай гімназіі імя Тамаша Зана.

Па словах Андрэя Каркоткі, назва работы не асабліва "зачапіла" яго. Але тое, як хлопец прадстаўляў даследаванне, як трымаўся перад журы, дасканала валодаў звесткамі і дакладна адказваў на пытанні, вельмі ўразіла.

Аляксандр Бабій у сваёй секцыі стаў першым. Аднак даследаванне, па словах хлопца, на гэтым ён не спыніць. Ужо набытыя білеты ў Маскву, куды Аляксандр паедзе з навуковай працай.

Некалькі гадоў над тэмай герояў Монтэ Касіна працуе дзевяцікласнік **Максім Вайцяхоўскі** з ільянскай школы. Ён расказаў пра армію генерала Андэрса і пра знакамітую бітву Другой сусветнай вайны.

За даследаванне Максім атрымаў дыплом другой ступені. А старшыня Вілейскага ДТСААФ **Васіль Гулецкі** ўручыў хлопцу яшчэ адзін дыплом – за патрыятычную скіраванасць працы.

На ўрачыстым закрыцці пераможцаў узнагародзілі. Усе ўдзельнікі атрымалі сертыфікаты.

Члены журы і настаўнікі-кіраўнікі даследчых прац падзяліліся думкамі і ўражаннямі.

– На такіх канферэнцыях заўсёды бачыш, як прафесійна растуць калегі і іх вучні. Заўсёды хочацца цягнуцца за імі, – расказала настаўніца гісторыі з ільянскай школы **Людміла Маркевіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Пройдзе канцэрт духавога аркестра

МАЛАДЗЕЧНА

8 красавіка ў канцэртных залах Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага і Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў адбудзецца конкурс выканаўцаў духавых і ўдарных інструментаў.

Усяго будзе 94 удзельнікі па двух узроставых катэгорыях: навучэнцы дзіцячых школ мастацтваў і навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Будуць прадстаўнікі з усіх абласцей краіны, навучэнцы музычнага вучылішча імя Мікалая Рымскага-Корсакава з Санкт-Пецярбурга.

У рабоце творчага форуму будуць удзельнічаць выкладчыкі, заслужаныя артысты краіны, прафесары і дацэнты кафедраў драўляных духавых, медных духавых і ўдарных інструментаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Падобнае спаборніцтва пройдзе дзякуючы ініцыятыве цыклавой камісіі духавых і ўдарных інструментаў Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, а таксама дырэктара каледжа **Рыгора Сарокі** і адміністрацыі.

**Праграма конкурсу**

**9:30.** Урачыстае адкрыццё (канцэртная зала музычнага каледжа).

**10:00-18:00.** Конкурснае праслухоўванне па групах.
Канцэртная зала музычнага каледжа: медныя духавыя інструменты па намінацыях (старэйшая ўзроставая група), ударныя інструменты (малодшая і старэйшая ўзроставыя групы).
Малая зала музычнага каледжа: драўляныя духавыя інструменты па намінацыях (старэйшая ўзроставая група), намінацыя "Саксафон" (малодшая ўзроставая група).

**10:30-18:00.** Драўляныя і медныя духавыя інструменты па намінацыях (малодшая ўзроставая група). Канцэртная зала Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў.

**13:00-13:45.** Перапынак.

**19:00.** Канцэрт духавога аркестра Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага пад кіраўніцтвам Андрэева, урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу (канцэртная зала каледжа).

**Уваход свабодны.**

Яўгенія РУКЕВІЧ, выкладчыца музычнага каледжа .



Выступленне тэатральнага калектыву "АкваМарын" гімназіі-каледжа мастацтваў.

# "Малая Сакавіца" раскрывае новыя таленты

МАЛАДЗЕЧНА

**Раённы фестываль дзіцячых тэатральных калектываў "Малая сакавіца" прайшоў у Маладзечне падчас вясновых канікулаў.**

Арганізатары фестывалю – педагогі маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" – пастараліся стварыць для дзяцей атмасферу свята, акунуць у свет фантазіі і цуду.

На адкрыцці фестывалю ўдзельнікаў вітаў старшыня журы, вядучы майстар сцэны Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Барыс Донін**:

– Калісьці я сам быў удзельнікам фестывалю "Сакавіца" сярод прафесійных тэатраў і мне ўручылі прыз за лепшую мужчынскую ролю. Таму я разумею, наколькі моцна хвалююцца юныя артысты і чакаюць чагосьці незвычайнага.

І іх чаканні апраўдаліся. Чароўны свет тэатра захапіў усіх – ад другакласнікаў з тэатральнай студыі "Драмацешка" (гімназія №10) да дзесяцікласнікаў з калектыву "АкваМарын" (гімназія-каледж мастацтваў). Яны і падзялілі паміж сабой першае месца. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце і жанрах прадстаўленага матэрыялу, абодва калектывы вызначыліся лепшай рэжысёрскай працай, яркім акцёрскім ансамблем і мастацкім афармленнем спектакля.

Дыплом другой ступені дастаўся аб'яднанню па інтарэсах "Тэатральныя падмосткі" гімназіі №7. У спектаклі "Горад дзяцінства" юныя тэатралы паднялі вечную праблему бацькоў і дзяцей.

– Сваім выступленнем мы хацелі паказаць дарослым, што часам дзецям не хапае бацькоўскай увагі, – патлумачыла выканаўца ролі Прынцэсы **Крысціна Ліпніцкая**.

Масава быў прадстаўлены калектыў тэатральнай студыі "Кіпень" сярэдняй школы №8, які заняў трэцяе месца. 19 юных акцёраў прымералі на сябе ролі Бураціна, Мальвіны, Артамона і іншых герояў казкі **Аляксея Талстога** "Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна".

За яркае харэаграфічнае суправаджэнне спектакля быў узнагароджаны калектыў "Кропелькі сонца" з гімназіі №3. Казка "Цуды ў лесе" была пастаўленая па матывах усімі вядомай і любімай казкі "Дванаццаць месяцаў". Толькі замест пярсцёнка ў дзяўчынкі быў чароўны яблык, а галоўных герояў замянілі Стары Гадавік і Кікімара з Лесуном.

Тэатральны калектыў "Пралеска" Чысцінскай сярэдняй школы парадаваў гледачоў пастаноўкай на беларускай мове "Хто ж вінаваты?", за якую быў узнагароджаны дыпломам "За яркае ўвасабленне беларускай драматургіі".

– Мне вельмі спадабаўся фэст. Усе калектывы выдатна выступілі, тут няма тых, хто прайграў. Усё вельмі добра падрыхтавана – пачынаючы ад касцюмаў і заканчваючы самім выступленнем. Я вельмі рада, што ў дзяцей ёсць магчымасць паспрабаваць сябе ў ролі акцёраў, – падзялілася сваімі ўражаннямі навучэнка гімназіі-каледжа мастацтваў **Кацярына Падрэз**.

Закрыццё фестывалю і ўзнагароджанне ўдзельнікаў адбыліся ў Мінскім абласным драматычным тэатры 30 сакавіка. Акрамя калектываў, журы адзначыла некаторых юных акцёраў за яркае выкананне ролі. Дыпломы і сувеніры ад спонсараў атрымалі **Дзяніс Лотыш** (гімназія-каледж мастацтваў), **Ксенія Карас** (гімназія №10), **Уладзіслаў Аўрайцовіч** (гімназія №7), **Таццяна Фешчанка** (СШ №8), **Аляксандра Макей** (гімназія №3), **Арына Шамякіна** (Чысцінская СШ).

> – Тая справа, якой вы займаецеся, годная павагі і захаплення. Гэта добра, калі людзі імкнуцца да людзей, калі яны пачынаюць вучыцца разумець адзін аднаго, прыслухоўвацца да чужых жаданняў і ў выніку творчасці ў іх нараджаецца нешта вельмі прыгожае. І хай на ўсё жыццё з вамі застанецца маленькі астравок надзеі і шчасця – тэатр, які будзе саграваць вас сваімі ўспамінамі, – пажадаў юным акцёрам адзін з членаў журы, настаўнік тэатральных дысцыплін гімназіі-каледжа мастацтваў **Валеры Мурычын.**

Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік". Фота Дамініка ГУЛЕВІЧА.

● НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Пляшчанская трагедыя

*Працяг. Пачатак у №№1, 2, 10, 11, 12, 13*

**Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Аляксандара (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) (1929 г.н.) Доўнараў.**

Асабіст Белік прымаў самы непасрэдны ўдзел у тым крывавым забойстве ў ролі суддзі і выканаўцы прысуду. Пасля расстрэлу гэтай сям'і, Белік са сваімі галаварэзамі ўсю маёмасць, вопратку і прадукты, якія толькі былі ў расстраляных, пагрузілі на вазы і забралі.

Але садысты не ўсіх расстралялі. Падчас знішчэння сям'і 12-гадовая ўнучка Ніна схавалася у другім пакойчыку, і яе бандыты не заўважылі. Адразу пасля той трагедыі яе забрала да сябе Вольга, родная сястра бабы Варвары. Яна была замужам за суседам Іванам Жоглам. Так і жыла Ніна ў Жоглаў да свайго шлюбу з **Міхаілам Луцкім** з Хаценчыцаў.

Пасля вайны яна як адзіная, хто застаўся ў жывых з сям'і, выступіла ў судзе як відавочца і сведка супраць забойцаў яе родных і іншых вяскоўцаў. У тым ліку Карповічаў – Івана Сямёнавіча (1899 г.н.) і яго жонкі Марыі Васілеўны (1908), расстраляных 28 мая 1943 года, у якіх кватараваў сам Белік. Асабісту вельмі не падабалася, што да Івана ўсе жыхары ў вёсцы адносяцца з павагай, як да разумнага і разважлівага чалавека, які нікому не адмаўляў у вырашэнні тых альбо іншых жыццёвых праблем. Беліка насцярожвалі таксама стасункі Карповіча з псаломшчыкам Ляшкевічам. Хаця цудоўна ведаў, што здрады ў тых стасунках няма.

### Забойства сям'і Карповічаў

Асабіст канчаткова абурыўся на Карповіча пасля таго, як Іван супраць загада Беліка "здраднікаў не хаваць" арганізаваў вяскоўцаў для пахавання забітай сям'і Жукоўскіх, бо яны пасля расстрэлу з тыдзень ляжалі у хаце. Услед распраўіцца з непакорным Карповічам не атрымалася з-за распачатай немцамі блакады. Праўда, ён сам не рашыўся прыняць непасрэдны ўдзел у знішчэнні сям'і, якая яго прытуліла, карміла ды абагравала. Карповічаў закатавалі іншыя, яго паплечнікі па барацьбе.

Больш падрабязна пра гэта забойства распавяла **Зінаіда Іванаўна Раковіч** (Карповіч), 1929 г.н., старэйшая дачка Івана Карповіча. Блакада 1943-га пазаганяла пляшчанцаў у глухія лясныя нетры. Частка сышла ў Заціўша, а частка за Хаценчыцы ў Зачарнянскі лес, моцна забалочаны, пераважна хвойны. Напрыканцы мая блакада аслабела, і людзі пачалі варочацца ў свае вёскі. Вайна-вайной, а садзіць-сеяць трэба.

– Тата, мабыць, прадчуваў нядобрае, – расказвае Зінаіда Іванаўна, – бо дахаты адразу нас, мяне, сястру Жэньку (1936 г.н.) і брата, Аляксандра (1928), з сабой не забраў, а адправіў бацькам на тыдзень ў Куляшы (за вёрст пяць ад Пляшчанаў) да бабы Дар'і і дзеда Васіля. Праз некалькі дзён у Куляшы дайшлі чуткі, што ў Пляшчанах забілі сям'ю Карповічаў, але якіх, дакладна не гаварылі. Пачалі мы больш хвалявацца, калі мінуў час, а тата так і не прыехаў за намі. Бабуля з дзядулем таксама месца не знаходзілі ад розных думак.

Урэшце мы самі разам з бабуляй і дзядулем рушылі ў Пляшчаны. Пляшчанцы сустрэлі нас са слязамі на вачах і спачуваннем, сказаўшы, што здарылася вялікае гора ў нашай сям'і. Што бацькі нашы былі забітыя бандытамі ў сваёй жа хаце тыдзень таму, але дагэтуль так і не пахаваныя. Вяскоўцы баяліся заходзіць у хату з-за пагрозаў тых бандытаў.

Да падворка нас праводзілі ўсе вяскоўцы. Мы ўжо самі сябе падрыхтавалі да трагічнай сустрэчы са сваімі загінулымі бацькамі, але ад таго, што ўбачылі ў хаце, ледзь не страцілі прытомнасць. Нас і ўсіх прысутных уразіў жахлівы выгляд расправы над нашымі роднымі. У таты былі пазрываныя пазногці на нагах, а ў мамы павырываныя на галаве валасы. Па ўсім было бачна, што іх моцна катавалі.

Вяскоўцы дапамаглі пахаваць тату і маму на Загаранскіх могілках. А пасля распавялі, што бандыты пасля расправы з нашымі бацькамі абрабавалі ўсё, што было магчыма звезці. Але адна ямка засталася некранутай, тата ўсё ж такі нават пад катаваннем не сказаў садыстам, тым самым не пакінуў нас на галодную смерць.

Пытаюся ў Зінаіды Іванаўны, ці ведае яна прозвішчы непасрэдных забойцаў вашага таты і мамы?

– Аднаго толькі. Бо пасля вайны мы яго сустрэлі ў Ільі. Тады гэта быў райцэнтр, і ён там працаваў на нейкай пасадзе. Мы яго на ўсё жыццё запомнілі.

На наша пытанне, за што нашых бацькоў закатавалі, адказаў, што яму быў загад расстраляць, і ён толькі страляў. А здзекаваліся іншыя, каб даведацца, дзе пажыткі схаваныя. Бо быў такі загад камандавання – забраць усё і расстраляць!

Зінаіда Іванаўна прыціхла ў задуменні, а вочы, напоўненыя слязьмі, глядзелі недзе ўдалеч. Мо, у далёкі і страшэнны 43-ці. Бо раптам, змахнуўшы з твару слязінкі, прадоўжыла размову пра свой далейшы ваенны лёс:

– Асірацелым дзецям адным заставацца у Пляшчанах было раўназначна смерці, і таму баба Дар'я забрала іх да сябе ў Куляшы. Пасля такіх трагічных падзей, забойстваў і гвалту, з Пляшчанаў сышло амаль усё насельніцтва.

У партызаны да Лунёва не ішлі, не хацелі, каб мірнае насельніцтва на іх глядзела, як на лунёўцаў-забойцаў. Асабліва пасля таго, як нагледзеліся на іх здзекі і гвалт з насельніцтва. Сышлі хто ў Ілью, хто ў Раёўку, а хто ў Радашкавічы – дзе ў каго была радня.

Насельніцтва ўцякала ў немецкія гарнізоны не толькі з Пляшчанаў, але і з іншых вёсак, куды дабіраліся лунёўцы. Заставаліся толькі лічаныя, каму не было да каго прытуліцца.

У Куляшах таксама жыццё было, што на вулкане. Тут часцей, чым у Пляшчанах, наведваліся паліцаі і немцы. Брат Сашка вымушаны быў днямі хавацца дзесьці ў агародзе альбо ў полі, каб не патрапіць на прымусовую службу у паліцыю. Дахаты прыходзіў толькі нанач і то баючыся налётаў лунёўцаў.

### Адпраўка вяскоўцаў у Германію

Вясной 1944-га немцы разгарнулі чарговую блакаду не толькі супраць партызан па іх знішчэнні, але і супраць насельніцтва для адпраўкі ў Германію. Выгнаўшы людзей з лесу, старых і слабых адпусцілі, а ўсіх маладых ды працаздолных паходным маршам пагналі на Раёўку. Там яшчэ раз зняволеных перасартавалі і, пагрузіўшы на машыны, завезлі ў Краснае на станцыю. А там у вагонах-цялятніках цягнік павёз Зінаіду Іванаўну з васьмігадовай сястрой Жэнькай і 16-гадовым братам Сашкам кудысьці на Захад. Стараліся трымацца ўсе разам. Дзесьці ў сярэдзіне лета цягнік давёз іх да месца прызначэння, у Асвенцым, фашысцкі канцлагер Аўшвіц. Там прабылі паўтара месяца, а пасля іх перавезлі ў іншы лагер пад Дрэздэн.

### Вызваленым вязням можна было выбраць любую краіну свету для жыцця

Пра лагернае існаванне Зінаіда Іванаўна размаўляць не стала, а я, разумеючы яе перажытае, не стаў аб гэтым і распытваць. У 1945 годзе з таго лагера іх вызвалялі амерыканцы. Усім вызваленым вязням амерыканскім бокам было прапанавана выбіраць любую краіну свету, куды б яны хацелі паехаць жыць. Усім гарантаваліся ўсе грамадзянскія правы той краіны, якую яны абяруць. Пасля прыехалі прадстаўнікі савецкай арміі, якія таксама гарантавалі роўныя правы ўсім тым, хто пажадае вярнуцца ў СССР. Усе, хто будзе згодны з прапанавай, будуць без затрымкі адпраўленыя на Радзіму.

Зінаіда Іванаўна з братам і сястрой і з іншымі вязнямі, тымі, хто адмовіўся ад амерыканскай прапановы, тры тыдні чакалі савецкага транспарту, каб адправіцца дадому. Шмат хто ўжо шкадаваў, што не пагадзіліся з амерыканскім бокам, бо тыя ўслед вывезлі "сваіх" з лагера. У выніку вязні, разбіўшыся на групы, рушылі ў Савецкі Саюз пешшу.

Дзень выхаду з Дрэздэнскага лагера, 28 мая, запомніўся добра, бо ён супаў з гадавінай расстраляных бацькоў. У дзень праходзілі па 50-60 кіламетраў. Каб выжыць, па дарозе вымушаныя былі прасіць яду, а дзе і красці. Дадому ў Куляшы дабраліся напрыканцы жніўня. Два гады жылі разам з бабай Дар'яй і дзедам Васілём і хадзілі ў Куляшоўскую школу. А ў 1947 годзе, як брата Сашку мясцовая ўлада адправіла ў Карэлію на дрэванарыхтоўкі, Зінаіда Іванаўна з малодшай сястрой пайшлі жыць у Пляшчаны, ва ўцалелую бацькоўскую хату.

Працавала на ферме цялятніцай, а малодшая сястра, Жэнька, працягвала хадзіць у школу. Праз некалькі год з Карэліі вярнуўся брат Сашка. Для яго канцэнтрацыйныя лагеры не прайшлі бясследна. Сашка доўга і моцна хварэў. У хуткім часе, пасля атрымання статуса вязня канцлагера ў 1958 годзе, сышоў з жыцця. А сёстры гэты статус вязняў атрымалі толькі ў 1991 годзе.

– А што тут больш казаць, – кажа напрыканцы Зінаіда Іванаўна,– што палупцаваў нас лёс, то палупцаваў! Што нават забойцу нашых бацькоў не пажадаеш!

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Заканчэнне будзе.**



Фота забяспечана Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

**Іван Карповіч, закатаваны партызанамі-лунёўцамі 28 мая 1943 года.**

● КАЛЯНДАР

## 9 КРАСАВІКА

**100 гадоў** з дня нараджэння (1917) **Міколы Вярбы** (сапраўднае Сільвановіч; вёска Верадова, цяпер Маладзечанскі раён), пісьменніка, грамадскага дзеяча эміграцыі ў Германіі і Канадзе. Памёр у 1975 годзе ў Вінніпэгу (Канада). У 1946 годзе адзінаццаць беларускіх пісьменнікаў, якія апынуліся на эміграцыі ў Заходняй Германіі, стварылі літаратурнае згуртаванне "Шыпшына". Гэта была своеасаблівая спроба адрадзіць разгромленае напачатку 1930-х легендарнае "Ўзвышша". "Шыпшынаўцы" бачылі сваё заданне ў тым, каб "стаяць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў", імкнуцца "да высокае мастацкасці, ідэйнай насычанасці і арыгінальнасці"... Пад "Дэкларацыяй" згуртавання побач з подпісамі Наталлі Арсенневай і Юркі Віцьбіча стаяла імя Міколы Вярбы. Пераехаўшы ў 1949 годзе ў Канаду, якую называў "краінай, магчымай для жыцця", ён заснаваў першыя беларускія арганізацыі ў правінцыі Мінітоба.

## 10 КРАСАВІКА

**Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў.**

**1982 год.** У Памоне (Нью-Джэрсі) памерла **Апалонія Савёнак** (дзявочае Раткевіч, нарадзілася 8 кастрычніка 1901 года на Лагойшчыне), настаўніца, пісьменніца, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Жонка Лявона Савёнка, маці Зоры Кіпель, беларускай грамадскай дзяячкі, літаратуразнаўцы, публіцысткі. У 1920 – 1930-х – настаўнічала. Ад 1944-га – на эміграцыі. У гімназіі ў лагерах Остэргофэн і Розэнгайм у Германіі выкладала беларускую мову і літаратуру. Аўтарка некалькі падручнікаў для дзяцей, цікавых успамінаў пра беларускае нацыянальнае жыццё 1920 – 1930 гадоў. Ад пачатку 1950-х жыла ў ЗША.

## 11 КРАСАВІКА

**90 гадоў** з часу прыняцця (1927) VIII Усебеларускім з'ездам Саветаў другой Канстытуцыі БССР.

**1937 год.** У Магілёве расстраляны (паводле іншых версій скончыў самагубствам ці памёр пасля катаванняў) **Цішка Гартны** (сапраўднае Змітер Жылуновіч), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзяржаўны дзеяч БССР, гісторык, пісьменнік, публіцыст.



**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# У мяне будзе столік на балконе, каб піць каву і глядзець на начны праспект

МАЛАДЗЕЧНА

**Дом №1 на вуліцы Машэрава называюць самым прыгожым у горадзе.**

Яшчэ б! Вялізныя вокны на ўсю сцяну, якія выходзяць на гарадскі парк. У такім доме жыць – адно задавальненне.

Чаму мы так упэўнена пра гэта кажам, таму што пазнаёміліся з **Анастасіяй**. Яна жыве на першым паверсе ў новым доме і расказала "Рэгіянальнай газеце", хто зайшоў у новую кватэру першым, што падарыў забудоўшчык і пра што марыць маладая гаспадыня сваёй уласнай кватэры.

– У кватэру першай зайшла я! – кажа гаспадыня аднапакаёвай кватэры. – У прыкметы я не веру, таму асабліва з пошукам ката не замарочвалася.

Анастасія купіла кватэру летась у снежні, а ўваходзіны адзначылі ў студзені.

– Для аднапакаёвай кватэры наша даволі вялікая: 45,5 квадратнага метра. Кухня вялікая, пакой прасторны.

Дзяўчына прызнаецца, што калі дом толькі пачаў будавацца, жыць у ім здавалася нязбыўнай марай.

– Думалі, што кватэры тут будуць каштаваць касмічна, але калі даведаліся пра кошт, вырашылі, што хочам жыць у новым доме, дзе ўсё новенькае.

Насця кажа, што не адна яна рада, што жыве ў гэтым доме.

– У нас і суседзі, відаць па усім, вельмі рады таму, што яны гаспадары кватэры менавіта ў гэтым доме, бо ўсе вітаюцца, усміхаюцца адзін аднаму.

Хаця суседзяў у іх пакуль няшмат.

– Або кватэры яшчэ не прададзеныя, або папросту яшчэ засяліцца не паспелі. Аднак і перфаратары па выхадных не будзяць. У кватэрах добрая шумаізаляцыя.

Калі падняць галаву ўгору і звярнуць увагу на балконы, становіцца зразумела, што аддзелачныя работы ў многіх яшчэ ў самым разгары. Тут, на балконах, стаяць будаўнічыя сумесі, ляжаць шпалеры, клей.

– У кватэры нічога не было. Толькі ў падарунак ад забудоўшчыка стаяла газавая пліта. І ўнітаз. Рамонт мы задумалі грандыёзны. Таму не адразу атрымалася заехаць.

Першае, што купілі ў новую кватэру, – гэта спальны гарнітур.

– Аднак паступова кватэру абставілі. Хаця працы ў ёй шмат. Яшчэ трэба дзе-нідзе паклеіць шпалеры.

Анастасія прызнаецца, што ў яе ёсць мара – на балконе паставіць толькі ўтульнае, прыгожае крэсла і стол.

– Каб па начах піць каву і глядзець на начны праспект. Ніякіх закатак і лыжаў у маёй кватэры не будзе.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



Анастасія – гаспадыня новай кватэры на вуліцы Машэрава. Вокны яе кватэры выходзяць на Вялікі Гасцінец.



Фасад дома. Выгляд з вуліцы Машэрава.



З дзявятага паверха кватэр, вокны якіх выходзяць у двор, адкрываецца такі від.

## Ці знікнуць грошы, калі вы пераплацілі за ваду, а лічыльнік – на паверцы

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнуўся чытач **Алег Русакевіч**. 30 сакавіка ў яго памянялі лічыльнік на ваду. Як аказалася, гэта трэба было зрабіць летась у красавіку. Пра што сям'я не ведала.

Сантэхнікі-камунальнікі, якія мянялі прыбор, сказалі, што грошы за пераплату вады не вернуць. Усхваляваны мужчына звярнуўся ў водаканал. Атрымаў адказ, што трэба пісаць заяву на імя дырэктара, толькі ў такім выпадку грошы могуць вярнуць.

– Нават калі банкі памыляцца і выдаюць лішнія грошы, людзей абʼяўляюць у вышук, – узрушаецца мужчына. – А тут трэба прасіць вярнуць пераплачанае.

Мужчына схадзіў у разліковы аддзел водаканала, напісаў заяву на пераразлік.

– Мне паказалі апавяшчэнне аб неабходнасці паверкі лічыльнікаў, якое мы нібы атрымалі і ў якім распісаліся, – адзначае Алег Русакевіч. – Аднак там стаяў чужы подпіс. Я папрасіў даць мне апавяшчэнне, але зрабіць ксеракопію супрацоўніца адмовілася.

Каб высветліць, ці вяртаюць грошы за пераплачаныя кубы вады і якім чынам адбываецца працэдура, мы звярнуліся да намесніцы начальніка па разліках з насельніцтвам абанентнага аддзела камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Маладзечнаводаканал" **Таццяны Курцінай**.

Спецыяліст патлумачыла, што, каб не ўзнікала такіх праблем, лепш плаціць за камунальныя паслугі, згодна з паказаннямі лічыльнікаў.

– Калі ж так атрымалася, што была пераплата, – адзначае Таццяна Курціна, – гэтыя грошы ўлічваюцца пры наступных аплатах. Пераплачаную суму можна забраць наяўнымі грашыма. Для гэтага неабходна напісаць заяву на імя дырэктара камунальнага прадпрыемства. Грошы вернуць на працягу двух тыдняў. Таксама можна папрасіць, каб пераплачаныя грошы ўлічылі пры аплаце іншых камунальных плацяжоў, напрыклад, за асвятленне, паслугі домакіраўніцтва.

Спецыяліст адзначыла, за часам паверкі лічыльнікаў сочаць камунальныя службы. Калі прыходзіць час здаваць сродкі на паверку, яны паведамляюць пра гэта ўласніку жылля.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## "Пеўчае поле" загучыць на Мядзельшчыне 1-2 ліпеня

МЯДЗЕЛ

На Мядзельшчыне 1 і 2 ліпеня пройдзе фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле".

Больш як паўвека прайшло з таго часу, як на блакітнавокай Мядзельшчыне нарадзіўся адзін з першых і самых галоўных песенных фестываляў Міншчыны – фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле". Ён праводзіўся штогод. Напачатку як рэгіянальны, з цягам часу атрымаў трывалы статус абласнога, а з 2015 года Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь надае фестывалю статус рэспубліканскага, паведамляе Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці.

## Мядзельскія гімназісты перамаглі на конкурсе Hi-Tech

МЯДЗЕЛ

23-24 сакавіка праходзіў заключны этап рэспубліканскага конкурсу інавацыйнай і тэхнічнай творчасці навучэнскай моладзі Hi-Tech. Гэты конкурс зʼяўляецца складовай часткай руху JuniorSkills Belarus.

Конкурс праходзіў у чатыры этапы, паведамляе Рэспубліканскі цэнтр інавацыйнай і тэхнічнай творчасці. У адборачных спаборніцтвах прыняло ўдзел больш за 500 навучэнцаў ва ўзросце ад 10 да 17 год. У заключным этапе конкурсу былі прадстаўленыя каманды ўсіх абласцей рэспублікі і Мінска. Удзельнікі спаборнічалі ў сямі кампетэнцыях. Сярод пераможцаў ёсць прадстаўнікі рэгіёна. Усе яны – прадстаўнікі гімназіі-інтэрната Мядзела.

У накірунку "Мабільная робататэхніка" першае месца занялі **Дзяніс Барыеў** і **Арцём Чаўлытка**, у "Прамысловай робататэхніцы" – **Андрэй Маліноўскі** і **Вадзім Валасевіч**.

Пераможцаў і прызёраў конкурсу ўзнагародзілі дыпломамі Міністэрства адукацыі Беларусі і памятнымі прызамі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Адзначыць Вербніцу і Радаўніцу без пластыку

## Экалагі б'юць трывогу: на вясеннія святы беларускія могілкі патанаюць у штучных кветках

**Вясна для хрысціян пачынаецца шэрагам важных святаў: гэта і Вербніца, і Вялікдзень, і Радаўніца. Кожны з гэтых дзён мае свае шматвяковыя традыцыі. Атрыбуты святаў у сваю чаргу крыху змяняюцца.**




Што ўтрымліваюць у сабе штучныя кветкі.

Цяпер на Вербніцу мы бяром у храм не толькі галінкі вярбы, але і прымацоўваем да іх яркія штучныя кветкі – для прыгажосці. На Радаўніцу не толькі прыбіраем магілы родных, але і ставім на іх тыя ж штучныя кветкі – зноў жа для прыгажосці.

Але чым такая прыгажосць "адплаціць" навакольнаму асяроддзю? Напярэдадні вясенніх святаў экалагі спрабуюць дастукацца да беларусаў: задумайцеся перад тым, як рыхтавацца да Вербніцы і Радаўніцы! Букеты пластыкавых кветак згубяць колер праз пару месяцаў, а на звалках будуць ляжаць стагоддзямі.

### Штучныя кветкі – спосаб зэканоміць?

Жаданне трымаць у чысціні і прыгажосці месца, дзе пахаваныя любімыя людзі, цалкам зразумелае. Такім чынам мы выказваем сваю любоў і памяць аб памерлых.

Часта веруючыя прыносяць кветкі і ў храм, кладучы іх перад іконамі. Але калі ў храм звычайна прыносяць жывыя кветкі, то на могілкі – пераважна штучныя.

– Традыцыя штучных кветак не мае глыбокіх гістарычных каранёў, ёй усяго 10-15 гадоў, – кажа **Сяргей Юшкевіч**, спецыяліст па накірунку "Царква і навакольнае асяроддзе" Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск). – Яна не мае ніякай багаслоўскай сімволікі і часцей за ўсё абумоўленая жаданнем чалавека зэканоміць.

Лічыцца, што штучныя кветкі таннейшыя за жывыя, і да таго ж нашмат даўжэй застаюцца "свежымі". Эксперт прапаноўвае падлічыць: адна штучная кветка каштуе 1 рубель, а саджанец – 1,5 рубля. Пры гэтым жывыя кветкі могуць упрыгожваць магілу нашмат даўжэй за штучныя. Аднак, вядома, тады трэба бываць на могілках часцей, чым раз на год, каб сачыць за саджанцамі. Менавіта таму большасць беларусаў аддае перавагу пластыку.

– Варта памятаць, што яркія штучныя кветкі не адпавядаюць атмасферы могілак у яе хрысціянскім разуменні, – дадае эксперт. – Гэта не значыць, што ўсё тут павінна быць выключна ў чорным колеры жалобы. Але ж гэта не месца для дэманстрацыі кіслотных фарбаў і безгустоўных пластыкавых упрыгажэнняў.

### Чым небяспечныя штучныя кветкі?

– Штучныя кветкі, нягледзячы на іх прывабнасць і прастату выкарыстання, нясуць вялікую небяспеку для прыроды, – падкрэслівае **Дар'я Чумакова**, кіраўнік праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў. – Іх робяць з сінтэтычных кампанентаў, якія могуць выдзяляць таксічныя рэчывы.

Пялёсткі часцей за ўсё робіцца з поліэстру, латэксу ці арганзы. Зверху іх пакрываюць хімічнымі саставамі, каб зрабіць больш трывалымі. Для афарбоўкі выкарыстоўваюцца анілінавыя фарбы, якія самі па сабе вельмі таксічныя.

Сцяблінкі і бутоны робяць з ПВХ, стрыжань – з пенапласту, які пры награванні выдзяляе канцэрагенныя рэчывы.

Калі пластыкавыя кветкі акажуцца на звалцы, то будуць выдзяляць таксічныя рэчывы і пры гэтым забруджваць глебу, паветра і грунтавыя воды. Калі ж іх спаліць – у навакольнае асяроддзе патрапяць цяжкія металы і дыяксіны.

Перапрацаваць штучныя кветкі немагчыма: надта шмат відаў пластыку ў іх выкарыстоўваецца, вызначыць від не заўсёды магчыма.

Таму, што б вы ні зрабілі з пластыкавымі кветкамі пасля таго, як яны згубяць "таварны выгляд", – у любым выпадку вы забрудзіце прыроду. Штучныя кветкі яшчэ на этапе пакупкі становяцца смеццем, якое немагчыма перапрацаваць.

### 10 тон пластыку на могілках

Ад такога неверагоднага выбару штучных кветак, які мы маем цяпер перад храмамі і на рынках, разбягаюцца вочы. Эколагі ж задаюцца пытаннем: ці не кіруе намі імкненне "быць, як усе": усе нясуць пластыкавыя кветкі, дык навошта я буду браць жывыя?

Калі падлічыць, колькі грошай беларусы трацяць на штучныя кветкі, атрымліваецца кругленькая сума. Паводле дадзеных МУС Беларусі, у 2015 годзе каля 1,5 мільёна чалавек наведалі могілкі на Радаўніцу. Сёлета чакаецца прыкладна такая ж лічба. Калі меркаваць, што кожны трэці прыхопіць з сабой дзве штучныя кветкі, то ўжо атрымліваецца "букет" з мільёна пластыкавых кветак. Важыць ён будзе каля 10 тон.

Улічваючы тое, што адна кветка каштуе 1 рубель (або 0,5 долара) то беларусы сёлета патрацяць на пластык каля 500 тысяч долараў. Гэта сума пойдзе на тое, каб забрудзіць не толькі могілкі, але і навакольнае асяроддзе.

Менавіта гэтыя лічбы прымушаюць эколагаў біць трывогу: у нашым паўсядзённым жыцці і так надта шмат смецця і адходаў, таму не трэба спецыяльна дакупляць яго на святы.

Ёсць і іншыя спосабы ўшанаваць памяць любімых людзей: упарадкаваць бабуліны фотаздымкі ці пасадзіць дрэвы ў дзедавым садзе. Сэнс такога ўчынку будзе не менш важны, але не пашкодзіць прыродзе.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

### Як вы ставіцеся да штучных кветак?



**Уладзімір Цанунін, пенсіянер, Вілейка:**
– Адмоўна. Бо гэта нежывое. Аднак ёсць моманты, дзе без штучных кветак – ніяк. Напрыклад, на могілках. Тут нежывыя букеты ўспрымаюцца нармальна. Да таго ж майстры цяпер стараюцца рабіць штучныя кветкі, вельмі падобныя да натуральных.



**Ксенія Звярко, вучаніца, Вілейка:**
– Толькі сапраўдныя кветкі могуць выклікаць у чалавека радасць. Штучныя дарыць не прынята.



**Максім Вайцяхоўскі, вучань, Вілейка:**
– Заўсёды лепш жывыя. Не ўяўляю, як можна са штучным букетам прыйсці на спатканне да дзяўчыны.



**Паліна Ганчар, намесніца дырэктара, Вілейка:**
– Штучныя кветкі могуць быць толькі там, дзе непрымальныя жывыя. Напрыклад, паспрабуйце сцэну да канцэрта ўпрыгожыць жывымі кветкамі: гэта будзе дорага і ненадоўга. Таму лепш выбраць штучныя кампазіцыі.



**Юлія Завацкая, вучаніца, Вілейка:**
– Больш люблю жывыя кветкі. Яны выглядаюць рэалістычна і пахнуць прыемна.



**Марыя Ількевіч, студэнтка, Маладзечна:**
– Нейтральна. Нічога дрэннага пра іх сказаць не магу. Жывыя пахнуць, але хутка вянуць. Штучныя ж, калі ёсць фантазія, можна ўпрыгожыць памяшканне.



**Анжаліка Чатырко, навучэнка, Маладзечна:**
– Больш падабаюцца натуральныя. Жывым людзям – жывыя кветкі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# Футбольны сезон у Маладзечне пачнецца 13 мая

МАЛАДЗЕЧНА

У панядзелак, 3 красавіка, стаў вядомы расклад гульняў у другой лізе.

Пачынаецца чэмпіянат краіны сярод каманд другой лігі 22 красавіка. Скончыцца 28 кастрычніка.

Сёлета ў чэмпіянаце возьмуць удзел 11 каманд.

Маладзечанская каманда пакінула мінулагадовую назву і будзе як і раней насіць назву "Маладзечна ДЮСШ-4".

Прапануем вашай увазе каляндар гульняў на сезон 2017 года. Выражце і захавайце.

**Наталля ТУР.**

| | Дата гульні | Каманды |
|---|---|---|
| 1 тур | 23 красавіка (нядзеля) | Узда – Маладзечна |
| 2 тур | 29 красавіка (субота) | Энергазбыт Мінск – Маладзечна |
| 3 тур | 7 мая (нядзеля) | Смалявічы-Аўтатранс – Маладзечна |
| 4 тур | 13 мая (субота) | Маладзечна – Мантажнік |
| | 17 мая (серада) | Кубак Беларусі. Першы раўнд. |
| 5 тур | 21 мая (нядзеля) | Ашмяны – Маладзечна |
| 6 тур | 27 мая (субота) | Маладзечна – ДЮСШ-ДСК Гомель |
| 7 тур | 3 чэрвеня (субота) | Любань - Маладзечна |
| 8 тур | 10 чэрвеня (субота) | Маладзечна – СДЮШАР-3 Пінск |
| | 14 чэрвеня (серада) | Кубак Беларусі. Другі раўнд. |
| 9 тур | 18 чэрвеня (нядзеля) | Клецк – Маладзечна |
| 10 тур | 24 чэрвеня (субота) | Маладзечна – ЮАБ Жыткавічы |
| 11 тур | 1 ліпеня (субота) | Чысць – Маладзечна |
| 12 тур | 8 ліпеня (субота) | СДЮШАР-8 Гомель – Маладзечна |
| 13 тур | 15 ліпеня (субота) | Маладзечна – Вікторыя Мар'іна Горка |
| 14 тур | 5 жніўня (субота) | Маладзечна – Узда |
| 15 тур | 12 жніўня (субота) | Маладзечна – Энергазбыт Мінск |
| 16 тур | 19 жніўня (субота) | Маладзечна – Смалявічы-Аўтатранс |
| 17 тур | 26 жніўня (субота) | Мантажнік – Маладзечна |
| 18 тур | 2 верасня (субота) | Маладзечна – Ашмяны |
| 19 тур | 9 верасня (субота) | ДЮСШ-ДСК Гомель – Маладзечна |
| 20 тур | 16 верасня (субота) | Маладзечна – Любань |
| 21 тур | 23 верасня (субота) | СДЮШАР-3 Пінск – Маладзечна |
| 22 тур | 30 верасня (субота) | Маладзечна – Клецк |
| 23 тур | 7 кастрычніка (субота) | ЮАБ Жыткавічы – Маладзечна |
| 24 тур | 14 кастрычніка (субота) | Маладзечна – Чысць |
| 25 тур | 21 кастрычніка (субота) | Маладзечна – СДЮШАР-8 Гомель |
| 26 тур | 28 кастрычніка (субота) | Вікторыя Мар'іна Горка – Маладзечна |

● НАВІНЫ

## "Смаргонь" разграміла "Маладзечна"

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

ФК "Смаргонь" 1 красавіка праводзіў апошні спарынг перадсезонкі: на стадыёне ДЮСШ у Смаргоні сустракалася з "Маладзечнам". У першым тайме смаргонцы забілі чатыры галы ў вароты маладзечанцаў. Выніковы лік – 7:0. Хет-трыкам вызначыўся **Ігар Халадкоў.**

Наступны матч "Смаргонь" правядзе 8 красавіка. Гульнёй з "Энергетыкам-БДУ" клуб стартуе ў чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе.

## У Ашмянах збяруцца мацнейшыя паўэрліфтары

АШМЯНЫ

Ад 5 да 9 красавіка ў Ашмянах праходзіць чэмпіянат Беларусі па класічным паўэрліфтынгу сярод мужчын і жанчын, першынство сярод юнакоў і дзяўчат, юніёраў і юніёрак і ветэранаў. Для ўдзелу заявілася каля 150 чалавек ва ўсіх узроставых катэгорыях.

**Аддзел інфармацыі.**

# Нічога такі "паміжсабойчык" атрымаўся

## Хакеіст аматарскай каманды пра трэніроўку з "Дынама-Маладзечна"



Маладзечанцам з "Дэльты" нават прафесіяналам з "Дынама" закінуць шайбу было няпроста.

МАЛАДЗЕЧНА

**Для аматараў хакея не навіна, што для "дынамаўцаў" сезон завершаны.**

Аднак каманда **Дзмітрыя Краўчанкі** расслабляцца не збіраецца.

30 сакавіка каманда "Дынама-Маладзечна" правяла гульнявую трэніроўку з аматарскай камандай "Дэльта".

Сваімі ўражаннямі ад гульні падзяліўся варатар каманды "Дэльта" **Вячаслаў Арлоўскі.**

– На лёдзе з камандай "Дынама" мы сустракаемся другі раз. У мінулым годзе разам закрывалі хакейны сезон. І сёлета такі харошы "паміжсабойчык" атрымаўся.

За каманду "Дэльта" выказаў жаданне пагуляць і сам Дзмітры Краўчанка.

– Разам з ім гулялі два гульцы. Але калі мне цягам пяці хвілін "дынамаўцы" не маглі забіць ні адной шайбы, Дзмітры смяяўся, маўляў, во якія прафесіяналы, з аматарам справіцца не можаце. Але праз пяць хвілін мяне можна было ўжо вешаць на варотах, я так стаміўся. Калі адзін з нашых хакеістаў, запыхаўшыся, падышоў да гульца з "Дынама" і спытаўся, ці стаміўся той, гулец з "Дынама" зняў шлем. Аказалася, што ён нават не спацеў.



На варотах Вячаслаў Арлоўскі.

Вячаслаў лічыць, што такія гульні толькі на карысць камандзе.

– Адразу бачна тактыка саперніка, цікава назіраць за імі. Пераймаеш нешта для сябе. Якім бы моцным не быў сапернік, калі ты змагаешся з ім, ты і сам становішся мацнейшым.

Калі "Дынама-Маладзечна" сезон завяршыла, то ў бліжэйшы чацвер аматарскую каманду "Дэльта" чакае самы важны матч сезона – пешая фінальная гульня з мінскай камандай "К -2 Wind".

**Наталля ТУР.**
**Фота Аляксандра ЯРОМЕНКІ.**




Дзмітры Краўчанка (злева) і Віталь Баранскі на адзін дзень сталі аднакаманднікамі.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Цытата Уладзіміра Караткевіча: “Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто – і тады ...”.
2. Асноўная ежа сініх кітоў.
4. Роўнасць, раўнапраўе бакоў.
5. Дзіцяня авечкі.
7. Сметанковае марожанае.
8. Моцнае натхненне, уздым, энтузіязм.
13. Тайны агент, які сочыць за кім-небудзь.
14. Пустата паміж зубамі на месцы адсутнага зуба.
15. Танцавальны нумар з паступовым распрананнем.
16. Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзеравянелымі парасткамі і сцяблом.
17. Штэмпель для выбівання відарысаў на паверхні металічных вырабаў (манет, медалёў).
22. Вырас пад неба, а ... як трэба.
23. Распіска, квітанцыя, паперка.
24. Вузкі паток вадкасці, святла, газу.
26. Мы не жывём там, таму што японцаў там накармілі апельсінамі, арабаў – шалкавіцай, а нас – яблыкамі.
27. Кармушка для жывёлы ў выглядзе вузкай унізе скрынкі, нахільна прымацаванай да сцяны.
28. Слова або выраз, якія замяняюць грубы ці нязручны для дадзенай сітуацыі сэнс.
30. Перавозчык душ у старажытнагрэчаскай міфалогіі.
31. Які не страціў нявіннасці.
33. Імя паўэрліфтара Станкевіча з Ашмянаў, які прынёс медаль камандзе Беларусі па трохбор’і ў сакавіку.
34. Фанетычная “фішка” беларусаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Старадаўні рукапіс, або дакументы важнага грамадска-палітычнага значэння.
5. Адна з эндэмічных жывёл Аўстраліі.
6. Грашовы аброк.
7. Пурпуровая мантыя манарха.
9. У старых тэорыях фізікі: асобае суцэльнае асяроддзе, што запаўняе сусветную прастору.
10. Прафесія спецыяліста, які выклікаў дух Барбары Радзівіл.
11. Прыхарошвацца.
12. Рух у вадзе.
18. Сутыкненне ў баі.
19. Высокі, хударлявы.
20. Сталіца Афганістана.
21. Адзін з 88 участкаў, на якія падзеленае зорнае неба для зручнасці арыентацыі і абазначэння зорак.
25. Самаатручэнне арганізма рэчывамі, якія затрымліваюцца ў ім пры хваробе нырак.
29. Блізкі таварыш па занятку ці роду дзейнасці.
32. Суб’ект даследчай працы выхаванкі валожынскага дзіцячага садка №2 “Вясёлка” Ганны Ярмошкі ў абласным конкурсе “Я – даследчык” сёлета.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №13. Па гарызанталі.** 1. Дубальтоўка. 2. Эцюднік. 5. Кнехт. 7. Мускул. 8. Усход. 10. Латыфундыя. 11. Шахматы. 12. Марыніст. 15. Міша. 18. Крушон. 19. Мушавец. 20. Туніс. 21. Грошы. 24. Шамякін. 28. Знявага. 30. Рэклама. 31. Рэвізор. 32. Кулеш. 34. Бусел. 35. Мнемоніка.

**Па вертыкалі.** 3. Ватыкан. 4. Дрэнь. 6. Лашак. 7. Матадор. 9. Павека. 13. Зразы. 14. Нічога. 16. Парэта. 17. Крушня. 19. Мяшанец. 20. Тайм. 22. Наркоз. 23. Дыспут. 25. Мацярык. 26. Дзірка. 27. Корак. 29. Карона. 33. Ласавацца. 34. Бор. 36. Прапанова. 37. Лінза.



## ГАРАСКОП 7-13 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Хутка велікодныя святы. Добра было б заняцца домам. Верагодна, прыйдзецца нямала папрацаваць, але гэтыя клопаты прынясуць вам больш задавальнення, чым аднімуць ад вас сіл і часу.



**ЦЯЛЕЦ.** Магчыма, вам захочацца павысіць свой прафесійны ўзровень – калі ласка, для гэтага цяпер ёсць усе магчымасці. Перыяд спрыяльны для актыўнай дзелавой дзейнасці, а настойлівасць дапаможа дабіцца поспеху ў справах.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ваша жыццё не такое дрэннае, як вам здаецца. Трэба толькі знайсці ў сабе сілы, каб азірнуцца і самастойна пераканацца ў гэтым. У сукупнасці эмацыйныя і фізічныя сілы прывядуць вас да таго, што вы многага дасягняце.



**РАК.** Пачнуць рэалізоўвацца запаветныя жаданні. Паспрабуйце размерана расходаваць свае сілы, каб не вытхнуцца да канца тыдня. Узрасце сіла пераканання, якая дапаможа наладзіць новыя карысныя сувязі.



**ЛЕЎ.** Тыдзень прынясе не толькі вясенні настрой, але і масу заманлівых прапаноў. Не ўпускайце спрыяльны момант. Цяпер вашы жаданні супадаюць з магчымасцямі. Вас чакае поспех.



**ДЗЕВА.** Вы жывяце ў сваім уласным свеце, поўным перажыванняў і дэпрэсіўнага стану. І не бачыце ў ім цудоўнага і светлага, бо любыя эмоцыі жорстка падаўляеце. Мяняйце светапогляд, выбірайцеся з абалонкі, і ўсё якасна зменіцца.



**ШАЛІ.** Гэта добры час для стварэння дзелавой рэпутацыі, заваявання папулярнасці. Але дзейнічаць варта асцярожна, паслядоўна. Свае сапраўдныя мэты раскрывайце толькі блізкім людзям ці тым, каму моцна давяраеце.



**СКАРПІЁН.** Вас чакаюць сур’ёзныя перамены. Вам лепш заняць пазіцыю чакання, пакуль сітуацыя складзецца спрыяльным чынам. Вы можаце атрымаць параду звыш, яна можа прыйсці як азарэнне ці ў сне.



**СТРАЛЕЦ.** Не варта выпрабоўваць цярпенне навакольных, якімі б добразычлівымі яны ні выглядалі. Асаблівай увагі запатрабуюць фінансавыя пытанні – яшчэ раз усё праверце.



**КАЗЯРОГ.** Старайцеся не эксперыментаваць над сабой, асабліва калі вашы дзеянні звязаныя з небяспекай для здароўя. Калі вам хочацца змяніць жыццё – пачынайце з малога. Цяпер вялікія надзеі вельмі лёгка ператвараюцца ў вялікія ілюзіі.



**ВАДАЛЕЙ.** Добры час для ўзнаўлення ўзаемаразумення з партнёрам па шлюбе ці бізнесе. Калі раней у вас былі вострыя рознагалоссі па тых ці іншых пытаннях, то цяпер зможаце спакойна сесці і выслухаць аргументы кожнага.



**РЫБЫ.** Пастарайцеся пазбягаць адкрытага супрацьстаяння, бо канфлікты пакажуць вас не з лепшага боку. І тады не выключана, што перапыняцца вашы адносіны з кімсьці. Добра было б павучыцца самадысцыпліне. Вы паспяхова можаце аказваць асабісты ўплыў, але не заўсёды той, які б трэба было.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 3 | | | 7 | | | 9 | |
| | | 9 | | | 1 | | | |
| | | 4 | 6 | | | 2 | | |
| | | 3 | 2 | 9 | | 4 | 7 | |
| | | | | | | | | |
| | 2 | 8 | | 5 | 7 | 6 | | |
| | | 1 | | | 6 | 5 | | |
| | | | 5 | | | 8 | | |
| | 6 | | | 1 | | | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 8 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +6 / +9 | | +3 / +7 | | +2 / +10 | | +6 / +11 | |
| | 735 | ↘ 5 | 742 | ↓ 8 | 745 | → 5 | 742 | → 4 |
| Вільня | +2 / +7 | | +3 / +8 | | +9 / +18 | | +11 / +10 | |
| | 753 | ↓ 7 | 753 | ↓ 7 | 754 | → 6 | 750 | ↗ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.25
Захад 20.02
Даўжыня дня 13.37

Усход 16.49
Захад 5.46
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОРЬЯ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -9,4 °С у 1963 годзе
Максімальная тэмпература +17,4 °С у 1961 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,5 мм у 2008 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ПАДПІСКА

*Тэлефануеш сяброўкам плёткі сабраць? Ці не лепш у "Рэгіянальнай газеце" праўду чытаць?*



## Чытайце праз тыдзень:

Машыне "Ніва", якая належыць маладзечанцу Станіславу Аўгусціновічу, ужо 36 гадоў. Яе тройчы ўганялі, прапаноўвалі памяняць на карову проста на дарозе, яна прарывалася праз снежныя заносы. А машына да гэтага жывая, нават нідзе не заржавела і праходзіць тэхагляд з першага разу. Пра цуда-машыну і яе адзінага гаспадара чытайце праз тыдзень.



Працягваецца падпіска на "РГ":
Падпісны індэкс: 63212



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1145) 7.04.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 328. Падпісана ў друк у 9.00 6.04.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.